



# Рэгіянальная газета.Rh.by

ТэлетыДзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

27 сакавіка 2015 года №13 **(1039)**








## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### У бібліятэцы можна пагуляць у настольныя гульні

**МАЛАДЗЕЧНА.** На абанеменце цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча з'явіліся тры беларускія настольныя гульні: "Казачнік", "Разам" (беларуская настолка) і "1514" (ваенная гульня). Прыйсці і пагуляць у іх можа кожны ахвотны. Прыходзіць можна з сябрамі, знаёмымі ці з сям'ёй. Даведкі па тэлефоне: **76-06-56**. Цэнтральная раённая бібліятэка часова знаходзіца ў памяшканні бібліятэкі "Верасок", Вялікі Гасцінец, 121.

**Аддзел інфармацыі.**



# 10 самых аварыйных дарог у Маладзечне

**Самыя найгоршыя дарогі па версіі чытачоў "РГ"**

1. Усе дарогі на Лясных
2. Вуліца Бухаўшчына
3. Двары вуліцы Ф. Скарыны ля дамоў 27 А, Б, В, Г.
4. Алаізы Пашкевіч
5. Вялікі Гасцінец (ля гімназіі №10)
6. Вуліца Ясінскага
7. Вуліца Маладачанская
8. Вуліца Меліярацыйная
9. Завулак Бярозавы
10. Вуліца Таміліна (ад ЗАГСа да Лібава-Роменскай)

Фота з архіва "РГ".

Сярод аварыйных вуліц, стан якіх непакоіць чытачоў "РГ", сёлета адрамантуюць толькі адну – вуліцу Ясінскага.

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні мы папрасілі нашых чытачоў у інтэрнэце падзяліцца, якія вуліцы іх горада патрабуюць тэрміновага рамонту.**

Адметна, што хаця пытанне тычылася ўсяго рэгіёна, актыўнічалі толькі жыхары Маладзечна.

Вось што яны пісалі ў абмеркаваннях:

**Эдуард**: раён вуліцы Вялікі Гасцінец, ад архіва да мэблевага магазіна. І гэта ў самым цэнтры горада. Сорам!"

**Вікторыя Разумоўская**: "ляжачы паліцэйскі" ў шостым мікрараёне. Ён увесь разламаны, а нікому і справы няма.

Пра гэтага "ляжачага паліцэйскага" ўзгадвае таксама і **Ларыса Калінічэнка**:

– А я балдзею ад "ляжачага паліцэйскага" па Вялікім Гасцінцы, які знаходзіцца паміж паваротам на 14 школу і паваротам да "Каравана". У мінулым годзе зрабілі. А цяпер такія выбоіны, што ўсе, хто ведае, аб'язджае па дарозе каля ДАІ.

**Сяргей Петухоў**: вуліца Бухаўшчына – яшчэ з мінулага стагоддзя абяцаюць пакласці асфальт!

**Сяргей Фурс**: вуліца Маладачанская. Гарадскі аўтобус ходзіць па гравійцы. Ад пылу форткі ў дамах адкрыць немагчыма.

**Іван Малінец:** завулак Бярозавы. Як не паклалі асфальт да "Дажынак", так, падобна, пры маім жыцці і не пакладуць. Нават грэйдар за 15 гадоў ні разу не заехаў. Як жыць !?

**Жыхар**: вуліца Меліярацыйная мяне хвалюе. Няўжо няма сродкаў, каб зрабіць рамонт на такой невялікай вуліцы. Трэба ж неяк і аддаленыя вуліцы рамантаваць!

**Наталля ТУР.**

### За год адрамантуюць чатыры вуліцы

Рамонтам гарадскіх вуліц займаецца "Камунальнік". Начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела **Таццяна Паляковіч** распавяла "Рэгіянальнай газеце", якія ж вуліцы горада сёлета дачакаюцца капітальнага рамонту і асфальтавання.

Капітальны рамонт плануюць зрабіць на пешаходнай дарожцы на ўчастку вуліцы Велікасельскай ад школы №1 да аўтобуснага парка №4.

Адрамантуюць вуліцу Ясінскага. Зробяць пешаходны пераход на скрыжаванні вуліцы Прытыцкага і вуліцы Лібава-Роменскай.

Таксама завершаць будаўніча-мантажныя работы па вуліцы Вольнай.

Пешаходныя дарожкі заасфальтуюць па вуліцах Міру, Таміліна, Францішка Скарыны. Заасфальтуюць праезную частку вуліц Паўночнай і Гідратэхнікаў. А таксама правядуць паверхневую апрацоўку ўчастка вуліцы Францішка Скарыны (ад Вялікага Гасцінца да Будаўнікоў).

– Аднак рамонт гэтых дарог будзе магчымы толькі пры дастатковым фінансаванні, – удакладніла Таццяна Паляковіч.

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# За праезд давялося заплаціць двойчы

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтобус Чысць-Маладзечна, які адпраўляўся ў 10:23, зламаўся ў вёсцы Краснае.**

Чытач "Рэгіянальнай газеты" **Яўген Драздоў** расказаў, з якімі цяжкасцямі прыйшлося сутыкнуцца яго жонцы Вользе, каб дабрацца да горада 21 сакавіка.

– Тым, хто спяшаўся, прыйшлося дабірацца аўтаспынам альбо на цягніку Мінск-Маладзечна на 11:15, – расказвае мужчына. – Да станцыі Уша многія ішлі пешшу. Кіроўца адмовіўся вярнуць грошы за праезд, прапанаваў чакаць няпэўны час іншы аўтобус, які выклікаў з аўтапарка.

### Не шкада грошай, крыўдна за сілы і нервы людзей

Каб дабрацца да горада, яго жонцы прыйшлося заплаціць двойчы. Першы раз – за аўтобус 11 200 рублёў і ў цягніку – 2600 рублёў. Агульная сума паездкі склала 13800 рублёў.

– Не шкада гэтых грошай! – узрушаецца Яўген. – Больш крыўдна за тое, колькі нерваў, сіл, часу людзі патрацілі на тое, каб даехаць да горада. А нехта ж спазняўся на работу!

Як адзначае мужчына, у аўтобусе было прыблізна 25-30 чалавек.




**Непаразуменне паміж пасажыркай і кіроўцам адбылося ў аўтобусе з Чысці ў Маладзечна. Кадры з фільма "Вядзьмарская гара".**

### Грошы б вярнулі, калі б не далі аўтобус узамен

На аўтавакзале пацвердзілі, што аўтобус Чысць-Маладзечна зламаўся ў вёсцы Краснае.

– Як толькі вадзіцель паведаміў пра паломку, з аўтавакзала накіравалі іншы аўтобус, – расказвае дыспетчар аўтавакзала ў Маладзечне **Наталля Жаўняровіч**. – Аўтобус Чысць-Маладзечна павінны быў прыехаць у Маладзечна ў 11:12, але, улічваючы паломку, ён быў тут у 11:50.

Як нам патлумачылі на вакзале, кіроўца не мог вярнуць грошы пасажырам, бо яны прайшлі па касе. Тым больш, з аўтавакзала адразу быў накіраваны іншы аўтобус.

– Канешне, калі б аўтобус не замянілі і пасажыры самастойна дабіраліся да патрэбнага прыпынку, грошы ім маглі вярнуць,– адзначыла Наталля Жаўняровіч.

Для гэтага ім трэба было б звярнуцца на аўтавакзал з білетам.

**Галіна СІНІЦА.**




ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Галіна Мушкіна пра "Рэгіянальную газету"

Галіна Давыдаўна пачала чытаць газету з моманту з'яўлення. У той час яна працавала настаўніцай пачатковых класаў СШ №9 у Маладзечне. Праз некаторы час ёй стала цікава, хто ж яе робіць, і прыйшла ў рэдакцыю пазнаёміцца. Ад таго часу яна перыядычна заходзіць, каб падзяліцца сваімі навінамі ды абмеркаваць нашы.

– Газета злабадзённая. Матэрыялы актуальныя і своечасовыя. Мне падабаецца, што на яе старонках я магу ўбачыць людзей, з якімі знаёмая, якіх бачыла ці нават вучыла. Як, да прыкладу, галоўнага трэнера футбольнага клуба "Маладзечна" **Аляксандра Гармазу**. Ці зусім нядаўна выйшаў артыкул пра юбілей доктаркі **Марыі Зяцевай**. Я ж колькі гадоў з ёй знаёмая! Калі пабачыла ў газеце, што ў яе такая дата, спецыяльна завітала ў паліклініку ды павіншавала.

Асабіста мне блізкія старонкі, прысвечаныя гісторыі. Люблю разглядаць старыя здымкі.

Калі б спыталіся, што выкінуць з газеты, нічога б не выбрала. Усё трэба. Муж мой, як атрымлівае свежы нумар, пачынае з разгадвання судокі.

Газета пашырае кругагляд. Яна падыдзе кожнаму, незалежна ад узросту.

І, вядома, прыемна чуць беларускую мову. Прыходзіш да вас у рэдакцыю, а тут і на дзвярах – "Заходзьце, калі ласка".

**Настасся РОЎДА.**

ЗДАРЭННЕ

## Сонечнае зацьменне прынесла наступствы – у двух мужчын з рэгіёна праблемы з вачамі

**Мужчыны каля 30 гадоў звярнуліся да афтальмолага і скардзіліся на тое, што ў іх стаў пагаршацца зрок, перад вачамі з'явілася чорная кропка, якая перашкаджае бачыць прадметы.**

Гэта асноўныя прыкметы апёку сятчаткі вока.

Доктар-афтальмолаг Валожынскай цэнтральнай раённай бальніцы **Галіна Бабак** заўважае, што цяпер мужчыну чакае лячэнне. Аднак наступствы могуць быць на ўсё жыццё: можа, пагоршыцца зрок, можа, памяншыцца сятчатка вока.

Галіна Бабак расказала, што ў яе практыцы падобны быў падобны выпадак. Малады прызыўнік бачыў перад вачамі чорную кропачку.

Доктар-афтальмолаг Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы **Наталля Пабядзінская** расказвае, што ў панядзелак звярнуўся малады мужчына, ён скардзіўся на тое, што стаў дрэнна бачыць, перастаў чытаць.

Пасля панядзелка мужчына больш не прыходзіў на прыём.

Наталля Пабядзінская адзначае, што дакладна высначыць, ці былі ў мужчыны апёк сятчаткі, немагчыма. Гэта могуць зрабіць у абласных цэнтрах.

Як адзначылі дактары-афтальмолагі ў Вілейцы, Маладзечне, Астраўцы, у гэтых раёнах падобных выпадкаў не было.

**Марыя Шакура**, доктар-афтальмолаг афтальмалагічнага аддзялення бальніцы №1 у Маладзечне заўважыла, што людзі могуць яшчэ і звярнуцца.

**Галіна СІНІЦА.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## У краму ўклалі 400 мільёнаў рублёў, а яе не выкарыстоўваюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі міжрайкамітэт дзяржкантролю правёў планавую праверку Маладзечанскага раённага спажывецкага таварыства.**

У таварыства расце крэдыторская запазычанасць. Летась у параўнанні з 2013 годам яна павялічылася на 1,3 раза. Абаравальнасць харчовых тавараў знізілася на два дні, а прамысловых узрасла на 20 дзён. Гэты пакашчык характарызуе, за колькі дзён прадаюць сярэдні запас тавару.

Таварыства мае парушэнні ў вядзенні бухгалтарскага ўліку, што схавала страты па выніках работы за 2012 год на 1,5 мільярда рублёў, за 2013 года – 246 мільёнаў. Гэта сказіла і дзяржаўныя статыстычныя дадзеныя пра стан разлікаў прадпрыемстваў.

Службовыя і адказныя асобы не правялі поўную інвентарызацыю актываў і абавязкаў прадпрыемства, калі праводзілі рэарганізацыю. Праз гэта цана нерухомасці, якую прымалі, была завышаная больш чым на тры мільярды рублёў.

Кіраўніцтва таварыства не арганізавала кантроль за рацыянальным выкарыстаннем рэсурсаў, не выкарыстоўвалі магчымасці абсталявання, памяшканняў, якія пустуюць.

Напрыклад, у былой сталоўцы ў аграгарадку Яхімоўшчына ўваход захламлены дрывамі і смеццем, на сталі і сценах ёсць трэшчыны, абвальваецца тынкоўка, часткова вылама ныя вокны і дзверы.

Не выкарыстоўваецца ад 2007 года будынак крамы "Універмаг" у Радашкавічах. На яго рэканструкцыю ў 2010 годзе выдаткавалі 400 мільёнаў рублёў са сродкаў інавацыйнага фонду Белкаапсаюза.

Агулам таварыства не выкарыстоўвае 30 будынкаў, з іх пяць выкарыстоўваюць часткова.

У крамах Маладзечанскага райспажыўтаварыства заўважылі парушэнні у асобных відах тавараў, санітарных нормаў і правілаў.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжрайкамітэта дзяржкантролю.**

ПАСАДЫ

## Прызначылі новага дырэктара аўтобуснага парка №4 у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 13 сакавіка прызначаны новы дырэктар аўтобуснага парка №4 філіяла ААТ "Мінаблаўтатранс". Ім стаў Уладзіслаў Усцюшэнка.**

Дагэтуль ён быў намеснікам генеральнага дырэктара па забеспячэнні і збыце ААТ "Кіруючая кампанія холдынгу "Забудова".

Нарадзіўся ў 1975 годзе, мае жонку і сына.

Пра гэта расказала начальнік аддзела прававой і кадравай работы аўтапарка №4 **Марына Падбярэзская**.

– Аўтобусны парк будзе працягваць развіваць экспартныя паслугі, міжнародныя паслугі па перавозцы пасажыраў, для гэтага распрацоўваем новыя маршруты, – адзначыў Уладзімір Усцюшэнка. – Але галоўнае цяпер – гэта не згубіць тое, што аўтобусны парк мае.

Былы дырэктар Маладзечанскага аўтапарка №4 Яўстафій Каравай пайшоў з жыцця 10 студзеня.

**Галіна СІНІЦА.**

ТРАНСПАРТ

## Ад Даўгінава пусцілі бясплатны аўтобус да Мядзела

**МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА.** Ад 19 сакавіка ходзіць ён двойчы на тыдзень: па чацвяргах і нядзелях.

Аўтобус пусціў "Еўраопт". Ідзе ён з Даўгінава праз Крывічы, Княгінін, Сваткі да мядзельскай крамы сеткі. Адпраўлене з Даўгінава ў 10:00. Зваротны рэйс з Мядзела прызначаны на 12:20.

Праезд бясплатны. Але пры вяртанні дадому трэба мець чэк з "Еўраопта".

Раней паведамлялі, што "Еўраопт" адкрыў 16 бясплатных аўтобусных маршрутаў для сельскіх жыхароў, адзін з іх у Валожыне.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАРОЖНАЯ БЯСПЕКА

# На вуліцы Янкі Купалы жыхары прыбіраюць агароджы

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак, 24 сакавіка, начальнік ДАІ Дзмітры Юркевіч правёў "круглы стол" па пытаннях бяспекі дарожнага руху ў Маладзечне і Маладзечанскім раёне.**

У гэты дзень усе тыя, каго хвалюе стан дарог або парковак ці павелічэнне колькасці аварый, маглі наўпрост задаць пытанне начальніку ДАІ.

Адразу двое прадстаўнікоў з вуліцы Янкі Купалы занепакоеныя тым, што на іх вуліцы кіроўцы не выконваюць хуткасны рэжым.

– Каля дамоў №№21-28 па нашай вуліцы жыхары нават свае агароджы прыбралі, – кажа выступоўца, – таму што ўвесь час іх зносяць машыны, якія рэгулярна з'язджаюць з дарогі. Тое ж датычыцца і дрэў. Быў выпадак, калі ў рэчку, што працякае акурат па вуліцы Янкі Купалы, звалілася машына.

Вырашыць гэту праблему дапамог бы знак абмежавання хуткасці да 40 км/гадз.

Дзмітры Юркевіч абяцаў, што такі знак ля школы №1 з боку Парашкоў хутка з'явіцца.

### Нармальным кіроўцам рацыя ў тэлефоне непатрэбная

Яшчэ адно пытанне, якое хвалявала прысутных, – гэта самыя небяспечныя скрыжаванні ў горадзе і на загарадных трасах.

– Небяспечных скрыжаванняў, як такіх, не існуе, – пракаментаваў Дзмітры Юркевіч. – Усе аварыі адбываюцца па няўважлівасці кіроўцаў або ад нежадання імі выконваць правілы дарожнага руху.

У Маладзечне аварыі часцей за ўсё здараюцца на скрыжаваннях вуліц Багдана Хмяльніцкага і Вялікі Гасцінец, на скрыжаванні таго ж Вялікага Гасцінца і вуліцы Касманаўтаў, а таксама ля "Бярозкі".

Прадстаўніца ДЭУ-63 РУП "Мінскаўтадор-Цэнтр" **Наталля Ханяўка** дадала, што і за межамі Маладзечна ёсць вельмі небяспечныя ўчасткі дарог. Як прыклад, прывяла ўчастак дарогі паміж вёскамі Мясата і Загорскае.

Прысутныя запыталіся ў начальніка ДАІ аб магчымасці ўсталяваць там камеру відэаназірання або рэгулярна выстаўляць пасты ДАІ.

На што Дзмітры Юркевіч адказаў, што калі там стаяць пасты, то кіроўцы едуць з дапушчальнай хуткасцю, таму што іх па рацыі ў мабільным тэлефоне даўно ўжо папярэдзілі калегі-кіроўцы.

**– Такія мабільныя рацыі ў тэлефонах – праблема для ДАІ?**

– Нармальным кіроўцам такія рацыі непатрэбныя. Нашто дысцыплінаваным кіроўцам ведаць, дзе стаіць пост ДАІ?

### Звяртацца да начальніка ДАІ можна чатыры дні на тыдзень

Усе тыя, хто па якой-небудзь прычыне не трапіў на "круглы стол" да начальніка ДАІ, могуць звяртацца да яго ў іншыя дні. Дзмітры Юркевіч вядзе прыём у панядзелак і чацвер з 16:00 да 20:00, у аўторак – з 8:00 да 10:00, а таксама ў суботу – з 9:00 да 13:00.

На развітанне Дзмітры Юркевіч папрасіў нагадаць чытачам не заставацца абыякавымі да парушэнняў на дарозе. І пра ўсе выпадкі паведамляць па тэлефоне **102.**

**Наталля ТУР.**




У Маладзечне аварыі часцей за ўсё здараюцца на скрыжаваннях вуліц Багдана Хмяльніцкага і Вялікі Гасцінец (1), на скрыжаванні таго ж Вялікага Гасцінца і вуліцы Касманаўтаў (2), а таксама ля "Бярозкі" (3).

ЛІЧБА НУМАРА

**57 359** транспартных сродкаў зарэгістравана ў Маладзечанскім раёне

З іх каля **43 000** – легкавыя машыны

Агулам у Вілейскім, Мядзельскім і Валожынскім раёнах зарэгістравана **35 000** транспартных сродкаў

Паводле Маладзечанскай ДАІ

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ і Наталлі ТУР.

| Курсы валют НБ РБ | 19.03 | 26.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 110,00 | **14 560,00** |
| Еўра | 16 000,00 | **15 910,00** |
| Злоты | 3 870,84 | **3 898,59** |
| Расійскі рубель | 245,50 | **252,00** |
| Грыўня | 677,58 | **630,74** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 25.03** | | |
| Еўра | 16050 | **15800/16000** |
| Долар ЗША | 15130 | **14450/14600** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.03 | 25.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **24800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41900 | **41500** |
| Селядзец, 1 кг | 42500 | **38000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | - | **108000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13000 | **13000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4700 | **4700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 5900 | **14900** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **5900** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **-** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **21900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19900 | **26500** |
| Мандарыны, 1 кг | 19900 | **22900** |
| Памідоры, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Агуркі, 1 кг | 36900 | **27900** |
| Перац, 1 кг | 42900 | **37900** |
| Вінаград, 1 кг | 34900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Яблыкі, 1 кг | 10900 | **10900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 110000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

СПАЖЫВЕЦ

# У рэгіёне пачынаюцца кірмашы

**На іх можна будзе набыць мясную, кандытарскую прадукцыю, садавіну, гароднiну, саджанцы, расаду, насенне, угнаенні, інвентар.**

### Валожын

У Валожыне вясеннія кірмашы пройдуць па нядзелях, 22 і 29 сакавіка, у красавіку – 5 і 26 красавіка, у маі – 3, 10 і 17.

Расказала галоўны спецыяліст аддзела эканомікі Валожынскага райвыканкама **Жанна Марчук**.

### Вілейка

Рэгіянальны кірмаш у Вілейцы адбудзецца 11 красавіка на цэнтральнай плошчы. У ім паўдзельнічаюць Маладзечанскі, Лагойскі, Валожынскі, Мядзельскі раёны.

Наконт культурнай праграмы ў райвыканкаме пакуль думаюць.

– Кірмаш у Вілейцы будзе ў суботу напярэдадні праваслаўнага Вялікадня. Таму пакуль мы не ведаем, ці будзе нейкая культурная праграма, – адзначае галоўны спецыяліст аддзела эканомікі Вілейскага райвыканкама **Наталля Драгун**.

### Мядзел

Кірмашы ў Мядзеле пройдуць 4 красавіка і 16 мая.

У курортным пасёлку Нарач (Купа) яны будуць 28 сакавіка і 9 мая.

25 красавіка – у Свіры.

2 мая – у Крывічах.

Пра кірмашы расказала начальнік аддзела эканомікі Мядзельскага райвыканкама **Вольга Палонік.**

### Смаргонь

18 красавіка плануюць правесці кірмаш па вуліцы Якуба Коласа ў Смаргоні. Пачнецца ён у дзесяць гадзін. Пра кірмаш распавяла начальнік аддзела эканомікі Смаргонскага райвыканкама **Ірына Галдыцкая**.

### Ашмяны

У Ашмянах вясной не плануюць праводзіць вясеннія кірмашы. Пра гэта паведамілі ў Ашмянскім райвыканкаме.

**Галіна СІНІЦА.**

● КРАДЗЯЖЫ

# Абкрадаюць дом за домам

**ВІЛЕЙКА. У апошнія тыдні шэраг крадзяжоў адбыўся ў вёсках Хаценчыцкага сельсавета на Вілейшчыне. Пераважна абкрадаюць лецішчы.**

Калі двое мінчан 28 лютага прыехалі на лецішчы ў вёску Студзянец, то ўбачылі, што туды пранік злодзей. У адным з суседніх дамоў ён адціснуў дзверы, у другім – акно, расказаў часовы выканальнік абавязкаў начальніка Вілейскага раядзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Зніклі з лецішчаў электраінструмент, рыбалоўныя снасці, посуд. Агулам гаспадары недалічыліся рэчаў больш чым на 36 мільёнаў рублёў.

Потым крадзеж адбыўся у ноч на 5 сакавіка ў вёсцы Бацюжына. Там невядомы залез адразу ў чатыры лецішчы. У трох лецішчах ён нічога не ўзяў, хаця было чым пажывіцца. А з чацвертага прыхапіў дрыль, бензатрымер, магнітафон і спінінг. Прычыніў шкоду амаль на 16 мільёнаў рублёў.

Ад 14 да 16 сакавіка ў вёсцы Шашокі невядомы з гаспадарчай пабудовы лецішча скраў дрэваапрацоўчы станок, кустарэз, вадзяную помпу. Шкода – амаль на 12 мільёнаў рублёў.



Малюнак: grodnonews.by

Хваля крадзяжоў прайшла па Вілейшчыне.

### Назваўся чужым імем і скраў ровар

Крадуць не толькі з лецішчаў. Уначы 16 сакавіка ў дом у вёсцы Лоўцавічы завітаў чалавек – дзверы не былі замкнутыя.

Загаварыў з пажылым вяскоўцам. Прадставіўся жыхаром суседняй вёскі, якога гаспадар ведаў. Але пад канец размовы гаспадар зразумеў, што гэта не той чалавек, за якога сябе выдае.

Пасля таго як незнаёмец сышоў, гаспадар уключыў святло і ўбачыў, што знік ровар і слоік салаты, расказаў следчы Вілейскага раядзела Следчага камітэта **Вадзім Пуцэйка**.

Па адной з версій, крадзяжы ў вёсках магла здзейсніць адна і тая ж асоба.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Сем крадзяжоў на дваіх

**ВАЛОЖЫН. Валожынскі РАСК узбудзіў крымінальную справу супраць двух 18-гадовых хлопцаў, ураджэнцаў Клецкага і Нясвіжскага раёнаў. Яны ад верасня 2014 года да студзеня 2015 года здзейснілі шэраг крадзяжоў.**

Тры крадзяжы грошай і электраінструментаў адбыліся на тэрыторыі Клецкага раёна.

Яшчэ чатыры – на Валожыншчыне.

Адзін з сяброў пазнаёміўся з дзяўчынай з Валожына. Калі быў у яе ў гасцях, спачатку скраў 700 тысяч рублёў. Калі наведаўся іншым разам, сцягнуў яшчэ 1 мільён рублёў.

Акрамя таго, хлопцы прызнаныя вінаватымі ў крадзяжах грошай з банкаўскіх картак.

У двух выпадках яны знялі з картак па 12 мільёнаў рублёў і яшчэ раз 3 мільёны 150 тысяч рублёў.

– Супраць хлопцаў узбудзілі крымінальную справу па трох артыкулах. Ім можа пагражаць да пяці гадоў зняволення, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі**.

**Наталля ТУР.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Ідзе акцыя "Бяспраўніку не месца за рулём!"

**МАЛАДЗЕЧНА. Яна пачалася 20 сакавіка і будзе доўжыцца да 30 сакавіка.**

У межах яе супрацоўнікі міліцыі паспрабуюць выявіць факты знаходжання за рулём асоб, якія не маюць альбо пазбаўленыя правоў на кіраванне машынай.

Ад 2014 года ў Мінскай вобласці вырасла колькасць ДТЗ, якія адбыліся па віне кіроўцаў, якія не маюць дакументаў на кіраванне транспартам. Сёлета было шэсць такіх здарэнняў, у іх загінуў адзін чалавек, шэсць траўмаваныя.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ,**
**начальнік аддзела ДАІ.**

● ДЗІКАЯ ПРЫРОДА

## Нераст: уводзяць забарону на лоўлю рыбы

**Паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, лоўля ўсіх відаў рыбы на Міншчыне забароненая ад 1 красавіка да 30 мая. На вадаёмах Віцебскай вобласці, да якіх адносіцца возера Вялікія Швакшты Нацпарку "Нарачанскі", лоўля рыбы забароненая ад 10 красавіка да 8 чэрвеня.**

У гэты перыяд дазваляецца аматарская рыбалоўства толькі адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, які забяспечаны штучнай прынадай, з адным адзіночным, двайным ці трайным кручком у светлы час сутак і толькі з берага без заходу ў ваду. Акрамя таго, забараняецца выкарыстанне грамадзянамі маламерных суднаў.

Нагадаю, што лавіць шчупака забаронена да 15 красавіка, а на вадаёмах Віцебскай вобласці – да 25 красавіка.

### Штраф плюс шкода

Выкарыстанне забароненых прыладаў ці спосабаў лоўлі рыбы цягне за сабой штраф ад 20 да 50 базавых велічынь. Акрамя гэтага давядзецца кампенсаваць нанесеную навакольнаму асяроддзю шкоду – у трайным памеры па кожнай канфіскаванай ці знішчанай дзікай жывёле ці віду рыбы. Калі памер шкоды складае больш за 100 базавых велічынь, наступае крымінальная адказнасць.

Пра выпадкі браканьерства паведамляйце па тэлефоне **8-01797-50-7-40.**

**Вячаслаў МІНЯНКОЎ,**
**Дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Абломкамі бетоннай пліты забіла мужчыну

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося каля трох гадзін дня 19 сакавіка ў вёсцы Мыслевічы на Маладзечаншчыне.**

На сельскагаспадарчым прадпрыемстве "Хажова-агра-2009" разбіралі стары цялятнік.

Пад'ёмны кран падняў бетонную пліту на вышыню каля трох метраў. Яна развалілася. Абломкамі быў траўмаваны мужчына, які стаяў пад плітой. Ён памёр на месцы здарэння.

Цяпер высвятляюць абставіны трагедыі.

Пра здарэнне распавяла старшы інспектар цэнтра прапаганды і навучання пры Мінскім абласным упраўленні па надзвычайных здарэннях **Наталля Шынгель**.

**Паводле "Чалавек і закон".**

## Знайшлі тых, хто скраў і зарэзаў карову

**ВІЛЕЙКА. Крадзеж адбыўся ў канцы лютага. У вёсцы Каловічы скралі карову з фермы таварыства "Новая Любанія".**

– Двое прыйшлі ноччу, вывелі карову з памяшкання. Зарэзалі яе непадалёку, мяса забралі з сабой, – прыгадаў часовы выканальнік абавязкаў начальніка Вілейскага раядзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

У выніку затрымалі 20-гадовага жыхара Вілейкі і 26-гадовага мужчыну з Маладзечанскага раёна. Частку мяса яны з'елі, а частку прадалі. У дачыненні да іх 16 сакавіка ўзбудзілі крымінальную справу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прадавалі прыёмнікі для прагляду закадзіраваных каналаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Аб'явы пра продаж спадарожнікавых прыёмнікаў, якія дапамагаюць глядзець закадзіраваныя тэлепраграмы, з'явіліся ў інтэрнэце.**

Іх убачылі прадстаўнікі спадарожнікавай кампаніі, якія звярнуліся ў міліцыю. Органы пачалі шукаць людзей, якія гандлююць такім абсталяваннем.

Ім аказаліся два маладзечанцы. Аднаму з іх – 40 гадоў, другому – 39. Мужчыны тэхнічна і праграмна змянялі прыёмнікі, так можна было глядзець закадзіраваныя праграмы і не плаціць за гэта грошы.

Адзін з маладзечанцаў, які працаваў праграмістам, прадаваў прыёмнікі. Яго 39-гадовы знаёмы, дырэктар маладзечанскай фірмы па продажы і ўстаноўцы абсталявання для прыёму спадарожнікавага тэлебачання, перадаваў перапрацаванае абсталяванне.

Эксперты заўважылі, што да стандартных тэлепрыёмнікаў былі прымацаваныя дадатковыя прыстасаванні. Яны дапамагалі падключацца да абароненых паролем тэлеканалаў.

Узбудзілі крымінальную справу. Мужчынам пагражае штраф альбо арышт ад трох да шасці месяцаў, альбо пазбаўленне волі да двух гадоў.

**Паводле УУС Мінскага аблвыканкама.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Перакуліўся на "Сеаце"

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося 18 сакавіка ў 14.30 на 23 кіламетры дарогі Дворышча-Забрэззе-Вішнева.**

40-гадовы кіроўца з Маладзечна не справіўся з кіраваннем "Сеата-Таледа", выехаў на ўзбочыну, затым з'ехаў у кювет і перакуліўся. Разам з ім былі 45-гадовы і 35-гадовы мужчыны. Яны дастаўленыя ў бальніцу. Кіроўца не пацярпеў.

Пра здарэнне паведаміла інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды дзяржаўтаінспекцыі Мінскай вобласці **Ірына Сапунова**.

**Паводле "Чалавек і закон".**

ВЫХАВАННЕ

# Дзень у садку: як бурбалкамі малявалі, як іх выдзімалі і снілі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пакуль у школах канікулы, садкі таксама расслабляюцца. У некаторых групах паловы дзяцей няма, бо хто рвануў да бабуляў і дзядуляў, хто дома са старэйшымі братамі ці сёстрамі.**



Выхавальніца ў маладзечанскім дзіцячым садку №9 Таццяна Скадорва дзьме бурбалкі, і ёсць нагода. У гэты дзень у садку дзень бурбалак.

Фота Настассі РОЎДЫ

У старэйшай групе садка №9 у выхавальніцы **Таццяны Скадорвы** ў аўторак было 13 дзяцей з 25. Сёлета яны ўжо пойдуць у школу.

Звычайна да абеду ідуць заняткі, якія дапамагаюць дзецям падрыхтавацца да школы: па граматыцы, маўленні, матэматычным уяўленні і іншыя. Але паколькі цяпер канікулы, сёння ў садку дзень бурбалак.

Калі дзяжурныя па сталах змятаюць апошнія крошкі пасля сняданку, выхавальніца кліча ўсіх да сябе.

– Я прынесла з сабой вось такі пакецік з цюльпанчыкамі. Як вы думаеце, што я магла туды пакласці?

Спачатку адказы млявыя.

– Прадмет.

– Сам не ведаю, што.

Але паступова прачынаецца цікавасць, і праз колькі хвілін ужо ўсе наперабой выдаюць прапановы.

– Малаток, слоік, гаечны ключ, замок, адвёртку, маленькі квадрат, нажніцы, залаты ключык, машынку, банцік, завушніцу, фламастар, аловак.

Дзесьці сярод усіх гэтых адказаў гучыць "мыльныя бурбалкі". Ён аказваецца правільным. Праўда, нядоўга цягнецца свята лопання бурбалак. Яны разліваюцца, і дзеці з выхавальніцай прыступаюць да прыгатавання самаробных.

– Што трэба для бурбалак? – пытаецца спадарыня Таццяна.

– Вада і мыла! Я ведаю! Мяне брат навучыў, а яму сем гадоў!

На стале тры міскі, некалькі леек з вадой, шампунь, вадкае мыла ды сродак для мыцця посуду.

Дзеці крыўдзяцца, што не кожны можа паўдзельнічаць у прыгатаванні мыльнай вадкасці. Аднак пагаджаюцца з Таццянай, што іх занадта шмат, каб кожны змог штосьці зрабіць. Адзін налівае ваду, другі дадае сродак, трэці перамешвае.

– Давай, цісні мацней! – падтрымліваюць іншыя хлопчыка, якому дасталася заданне выцiснуць вадкае мыла. Таму відавочна не проста, але ён спраўляецца.

Тым часам выхавальніца раздае рознакаляровыя трубачкі. Разам з гэтым расказвае, чаму варта быць асцярожным і як правільна дзьмуць бурбалкі. Дзеці дапамагаюць.

– Будзе атручванне!

– Калі растрэсці, то ўсё паляціць!

Урэшце вадкасць гатовая, і дзеці рвуцца як найхутчэй выдзьмуць хоць некалькі бурбалак.

– Як дарослыя такія вялікія робяць?

– Пены занадта шмат!

– Я ведаю! Трэба проста акуратна дзьмуць!

Надзьмуўшыся ўдосталь, выхаванцы разыходзяцца па зале. Час танца. А за ім – маляванне.

## Намаляваць бурбалкамі

**Уладзік і Авяліна**, дзяжурныя ў гэты дзень па занятках, загадзя падрыхтавалі для ўсіх працоўныя месцы: аркуш паперы, фарбы.

Таццяна Пятроўна збірае групу ля сябе.

– Ці верыце, што можна маляваць бурбалкамі?

– Не! – хорам кажуць дзеці і круцяць галавой.

Выхавальніца бярэ шклянку з вадкай фарбай і пачынае праз трубачку ў яе дзьмуць. Да таго часу, пакуль бурбалкі не выходзяць праз верх на паперу.

– На што падобнае? – пытаецца Таццяна, калі бурбалкі лопаюцца і на паперы вымалёўваецца нейкая абстрактная фігура.

– Марожанае.

– Не, малінка.

Усе пагаджаюцца з малінкай, і ёй тут жа дамалёўваюць алоўкам галінку і лісцік.

Пасля такога майстар-класа выхаванцы бягуць да сваіх месцаў у прадчуванні будучых малюнкаў.

– У мяне букет ландышаў!

– А ў мяне чарніцы!

– Дыназаўр атрымаўся!

Дамалёўваць бурбалкавыя шэдэўры вырашана пасля сну. Выхавальніца па фізічным выхаванні **Жанна Дурко** абвяшчае, што сёння яны ўсе цыркачы. Так што ў праграме – праходжанне праз гімнастычнае кола і па канаце. У садку яго замяняе вяроўка. Але відавочна, роўна ісці па адной лініі не так проста, як падаецца.

Пасля таго, як крыху парухаліся – час вольны. Дзеці гуляюць у любімыя гульні. Адны спрабуюць падзяліць домік для цацак. Іншыя абступілі горку для машынак. Хтосьці вырашыў маляваць, а хтосьці – збіраць мазаіку.

У выхавальніцы ўрэшце з'яўляецца хвілінка, каб паралельна з тым, як сачыць за дзецьмі, распавесці пра асаблівасці прафесіі.

## Бацькі сталі больш патрабавальнымі

У адукацыі Таццяна Скадорва 15 гадоў. Спачатку два гады працавала настаўніцай пачатковых класаў у СШ №11. Як выйшла з дэкрэту, пайшла працаваць у садок.

– Мая дачка таксама ў дзявятым садку была. Яна пайшла ў школу, а мама засталася ў садку, – усміхаецца яна. – Заўсёды. Была магчымасць пайсці працаваць настаўніцай пачатковых класаў, але падумала, што я патрэбная тут.

**У 2009 годзе Таццяна Скадорва стала выхавальніцай года на раённым конкурсе.**

– У прафесіі не бывае без складаных момантаў. Здаралася, калі рабілася сумна, калі думала, што ўжо ўсё зрабіла. Былі спрэчкі з бацькамі, якім ты штосьці тлумачыш, але яны не хочуць цябе разумець. Спрабуеш дастукацца, але гэта не заўсёды проста. Натуральна, назапашваецца стомленасць. У пэўны час здараюцца нервовыя зрывы. Прафесія выхавальніцы патрабуе ўмення абстрагавацца. Штосьці ўспрымаць блізка да сэрца, штосьці прапускаць міма. Гэта чалавек, які мусіць не толькі бачыць, але і адчуваць сэрцам.

**– Хапае сіл на сваё дзіця?**

– Вельмі складана. З гэтым сутыкаецца любы педагог. Бывае, прыходзіш і валішся з ног ад стомленасці, а тваё дзіця таксама чакае ад цябе штосьці новае. Імкнешся нешта даць і яму. Цяжка. Калі ў цябе ў групе столькі чалавек і на кожнага трэба звярнуць увагу, не пакрыўдзіць, успрыняць такім, які ён ёсць, даць упэўненасць у сваіх сілах, парадавацца з кожным яго дасягненню, пахваліць. Гэта трэба рабіць, каб дзіця атрымала матывацыю.

**– Што цікавіць бацькоў дзяцей?**

– Калі бацькі зразумеюць, што іх дзіця патрабнае выхавальніку, яны пацягнуцца. Бацькі аддаюць у дзіцячы садок самае дарагое. І яны хацелі б, каб, у першую чаргу, дзіця было дагледжанае, атрымала карысную інфармацыю. Калі дзіця выбягае з групы і расказвае, што рабіў, пра што даznаўся, прапануе тут жа паказаць. Сёння мы рабілі бурбалкі. Я сказала дзецям, што яны змогуць дома зрабіць іх з бацькамі.

**Сучасных бацькоў хвалюе не толькі, як дзіця ела і спала. Яны больш патрабавальныя і зацікаўленыя ў тым, каб дзіця як мага больш ведала. Ім важна, як дзіця паводзіць сябе ў калектыве, ці не крыўдзіць іншых.**

**– Ці лёгка знайсці агульную мову з дзецьмі?**

– Трэба стаць на адну прыступку разам з імі. Не лічыць сябе вышэй. Калі я стаўлюся да іх з павагай, не абражаю і не крыўджу, калі яны адчуваюць ува мне сябра, ім лягчэй зразумець нормы паводзін.

## Арганізавалі дні беларускай мовы

Таццяна Пятроўна аб'яўляе ўсім, што час ісці апранацца на шпацыр. На вуліцы сонечна і цёпла, так што дзеці не сядзяць ў альтанцы, а хапаюць скакалкі, мячы, цацачных коней і бегаюць па двары.

Збіраюцца арганізаваць гульню і разлічваюцца па беларускамоўнай лічылцы пра зязюлю.

Таццяна дадае, што ад новага года кожную апошнюю пятніцу месяца праводзяць дзень беларускай мовы.

– Дзецям гэта падабаецца, – заўважае выхавальніца. – Ім цікава ведаць, што "красный" – гэта чырвоны. Што можна адну рэч называць і так, і гэтак. Найбольш цікавяць зусім непадобныя словы. Складаней з вымаўленнем. Не ўсе бацькі з захапленнем успрымалі такія новаўвядзенні. Даводзілася тлумачыць, чаму дзіцяці трэба ведаць мову. Сутыкаліся з пытаннем: "Навошта яна яму? Ці спатрэбіцца?"

Нягледзячы на гэта, Таццяна заўважае, што дзеці мову разумеюць. Хоць на пытанні, якія задае па-беларуску, адказваюць па-руску. Затое адказваюць.

## Прысніць бурбалкі

Пасля прагулкі, у 12:30, – абед. Сёння, акрамя варанай капусты, пюрэ з рыбай і вінегрэт. А на дэсерт – кампот з яблыкаў.

Скончыўшы з абедам, дзеці ідуць распранацца і – у ложак. Напярэдзе дзве гадзіны сну.

На сон выхавальніца чытае казку, а ў канцы зычыць прысніць добрыя сны пра бурбалкі.

Шмат фота глядзіце на сайце

Rh.by

Настасся РОЎДА
E-mail:
nastya.rovdo@gmail.com
Skype:
nastya_rovdo



У Вязынцы на Гуканні вясны было вельмі шмат дзяцей рознага ўзросту. Для іх падрыхтавалі ласункі і забавы, а таксама прапаноўвалі дапамагчы развесіць птушачак.

● ПАДЗЕЯ

# Вясну ў Вязынцы гукалі так, што назаўтра выпаў снег

**МАЛАДЗЕЧНА. 21 сакавіка ў Вязынцы было шумна і шматлюдна. Усе тыя, хто знудзіўся ў чаканні вясны, прыехалі сюды, каб паклікаць, пазваць, паскорыць яе надыход.**

Гуканне вясны ў Вязынцы адметнае тым, што, толькі сышоўшы з цягніка, ты патрапляеш у самы вір падзей.

Хочаш – адразу займай месца ў карагодзе. Калі раптам змерз з дарогі – можна пачаставацца гарачай травяной гарбатай ля вогнішча або, калі ты аматар хэндмэйду, то адразу прайсціся па гандлёвых пунктах.

### Якое Гуканне вясны без традыцыйных песень

У самы разгар свята над Вязынкай раптам стала ціха. Ад возера да шматлікіх удзельнікаў данёсся спеў: "Агу, вясна, агу, красна…" Гэта дзяўчаты са студэнцкага этнаграфічнага таварыства абудзілі вязынкаўскую зямлю сваімі спевамі.

**Юлія Бондар**, сябра студэнцкага этнаграфічнага таварыства, кажа, што хаця вясну рэгулярна гукае ад 2008 года, але ў Вязынку трапляць штогод не атрымоўвалася.

– Мяне здзівіла тут тое, што гледачы актыўна ўключаюцца ў працэс гукання вясны. Не застаюцца ў баку ні ад карагодаў, ні ад гульняў. І сёлетняе Гуканне вясны ў Вязынцы было адметнае тым, што ішло "ад берага да берага". Спеў пачыналі на адным беразе возера, а падхапілі на другім.

Гуканне вясны пачынаецца з загукальных песень, для кожнага рэгіёна Беларусі яны свае:

– Звычайна, ніхто не дамаўляецца, якую песню спяваць. Кожны пачынае сваю, потым ужо галасы зліваюцца ў хор.

**– Юля, столькі людзей гукаюць вясну, а надвор'е толькі псуецца. Можа, не так гукаюць?**

– Гэта яшчэ пытанне, якім было б надвор'е, каб не пагукалі вясну.

### Прыйшлі вестачкі, што хочацца естачкі

Калі разгледзець прысмакі, якімі частавалі на свяце, як адно меню, то ў Вязынцы яно было такім.

Бліны з тварагом або з капустай каштавалі 25 тысяч рублёў.

Пірагі з яблыкамі або капустай з грыбамі каштавалі таксама 25 тысяч.

Гаспадыні прапаноўвалі пачаставацца салодкімі шарыкамі з сухафруктаў, арахісу, кунжуту за 10 тысяч рублёў за адну штуку.

Калі ж нехта з пакупнікоў скардзіўся, што гэта дорага, яму прапаноўвалі гарбату ў падарунак.

Ахвотныя ўспомніць дзяцінства і прыгадаць на смак печаны цукар маглі зрабіць гэта ўсяго за 4 тысячы. Менавіта столькі каштавалі самыя танныя цукеркі-пеўнікі, грыбочкі, вавёрачкі.

### Калі вы жанчына гарачая, набывайце завушніцы, якія ўраўнаважваюць

Асобная тэма ў Вязынцы – гэта праца майстроў. Чаго тут толькі не было!

Свае работы прапаноўвалі і кавалі, і ганчары, і ткачыхі, і майстры выцінанак.

У Вязынцы можна было набыць і тканыя паясы, і бранзалеты, і завушніцы з керамікі, дрэва, металу.

Майстрыха, якая прапаноўвала завушніцы з металу, давала парады прыгажуням:

– Калі вы чалавек імпульсіўны, гарачы, то вам трэба насіць упрыгожванні, якія будуць вас ураўнаважваць. Напрыклад, завушніцы са сталі. Калі ж у вас характар флегматычны, то выбірайце ўпрыгожванні з гарачага металу, напрыклад, з медзі.

Тым жа, хто прыгожы і так, можна было набыць упрыгожванне для кватэры. Напрыклад, магніцік на халадзільнік з беларускім арнаментам. Каштаваў такі магніцік 35 тысяч.

### Хто ў лазню, а я – у Вязынку

Сярод усіх, хто не спужаўся дажджу і прыехаў у Вязынку, вядома, былі тыя, хто не прапускае Гуканне ніводнай вясны.

**Юры Сянкевіч** якраз адзін з такіх наведнікаў свята. Ён тут гукае вясну ўжо гадоў пяць:

– У адных ёсць традыцыя на Новы год хадзіць у лазню, а я езджу на Гуканне вясны. Чаго прыязджаю? Усё ж такі, каб пабачыць знаёмыя твары, сустрэцца са знаёмымі.

**Наталя Жук**, настаўніца гімназіі №10 з Маладзечна, адразу папярэдзіла, што адказаць на пытанне, чаму яна прыязджае ў Вязынку, папсова не атрымаецца.

– Мая сяброўка Бася, – кажа Наталля, – жыве ў Польшчы, неяк у размове сказала: "Я не разумею, як можна жыць і не ведаць гісторыю мясцін, дзе знаходзіцца твой дом!" А наваколле, у якім жыву я, багатае на гістарычныя падзеі, цікавых людзей. Дастаткова толькі выбраць накірунак, мець жаданне спазнаць, адкрыць нешта новае, а магчыма, дастаткова мець білет на цягнік, як у выпадку з Вязынкай. Там заўсёды ёсць свая атмасфера – ці гэта свята паэзіі, ці Гуканне вясны. Там усё проста і зразумела, слухай, глядзі, спрабуй, удзельнічай.

Кожны раз Наталля прыязджае ў Вязынку з новай кампаніяй, са сваімі вучнямі і іх бацькамі.

– Калі вучні пытаюцца, што такое Гуканне вясны, я заўсёды адказваю: давайце з'ездзім, паглядзім. Што вашы тэлефоны, інтэрнэты, ютубы, паглядзіце хоць раз, як людзі клічуць вясну хутчэй прыйсці, радуюцца першаму вясноваму сонцу і праганяюць зіму.

І яшчэ Наталлю вельмі цешыць тое, што тыя, хто сёлета прыехаў з ёй у Вязынку ўпершыню, абяцалі вярнуцца сюды зноў, на іншыя народныя святы.

**Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**



Краязнаўца, мастак і музыкант Сяргей Верамейчык падчас адкрыцця выставы ў Смаргоні.

● МАСТАЦТВА

# Антывыставу ў музеі адкрыў краязнаўца Сяргей Верамейчык з Залесся

**СМАРГОНЬ. Наведнікі атрымалі два задавальненні ў адным: копію карціны, што прыйшлася даспадобы, можна было набыць, а вечарына прайшла пад музыку і песні ў выкананні творцы.**

Выстава "Фарбы і гукі з Залесся – 2015" пачала працу ў пятніцу, 20 сакавіка, у краязнаўчым музеі. Яна прысвечаная 250-годдзю Міхала Клеафаса Агінскага і будзе працаваць цягам месяца.

Для наведнікаў Сяргей Верамечык падрыхтаваў незвычайнае афармленне выставы. Як жартуе аўтар, прынцып выставы "не манументальны, а маментальны", бо рыхтавалі яе хутка. Таму і назваў яе антыподам выставы, ці антывыставай.

Мастацкія творы прымацаваў да вяроўкі прышчэпкамі. Некалькі дэкарацый са спектакляў залескай батлейкі падвесіў да столі. Гасцям спадабалася прымяраць іх на галаву, як капялюш, і фатаграфавацца, напрыклад, з альтанкай з Паўночных Афін на галаве. Сцэну ўпрыгожылі іншымі дэкарацыямі і лялькамі. А адну са сцен упрыгожваў плакат з партрэтамі Міхала Клеафаса Агінскага з жонкай, але замест іх твараў было акенца, каб можна было прымерыць на сябе іх вобразы.

Аўтар выставы правёў для наведнікаў экскурсію. Сярод яго работ пераважна замалёўкі Залесся, Гальшанаў, Крэва, Жупранаў, Кушлянаў. Госці адзначалі, што ў яго творах імпануе насычанасць яркіх колераў. Усяго на выставе 180 работ, сярод іх праекты замкаў, пейзажы, інтэр'еры палацаў.

Творцу не столькі віншавалі з адкрыццём выставы, колькі дзякавалі за тое, што зрабіў. Настаўнік фізічнай культуры залескай ясляў-садка-школы **Станіслаў Гаўрылкевіч** распавёў, што дзякуючы Верамейчыку многія жыхары вёскі даведаліся пра славутую гісторыю Залесся. Пакрысе і ён пачаў на сваіх уроках расказваць пра помнікі, мясціны, іх гісторыю. Цяпер кожны вучань можа правесці экскурсію па Залессі.

Хірург з Маладзечна, які пажадаў застацца неназваным, дзякаваў, што Верамейчык паклапаціўся пра тое, каб залескія школьнікі з'ездзілі ў Фларэнцыю і бліжэй пазнаёміліся з жыццём Агінскага. А адзін з гасцей напісаў верш, прысвечаны аўтару выставы, і пажадаў творцу, каб у яго работах часцей з'яўлялася тэма кахання.

Другая частка адкрыцця выставы была музычная. Сяргей Верамейчык іграў на флейце, а пасля пад гітару спяваў песні на словы Францішка Багушэвіча і на свае. Сярод гасцей было шмат школьнікаў, якія падпявалі аўтару. Госці дасылалі паперкі з заказамі на тыя песні, якія спадабаліся: "Сон", "У госці да Міхала".

А ў гэты час па зале перадавалі альбом пажаданняў для Верамейчыка. На кожным акрушы была намаляваная літара, на якую прапаноўвалі напісаць эпітэт ці пажаданне аўтару. На "В" напісалі "вандроўнік", на "Т" – творчаму і гэтак далей. Альбом падарылі краязнаўцу, мастаку і музыке напрыканцы імпрэзы.

Верамейчык навучыў развітвацца па-залеску. Ён вучыў школьнікаў развітвацца і па-італьянску "арыведэрчы", а адна дзяўчынка, забыўшыся словы, запыталася: "Як там па-італьянску? Калявядзерца?" З таго часу ў Залессі так і развітваюцца – калявядзерца.

**Фота і відэа з выставы глядзіце на сайце rh.by.**
**У наступных нумарах "РГ" чытайце падрабязнае інтэрв'ю з Сяргеем Верамейчыкам у рубрыцы "Госць нумара".**

**Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Datsun ON-DO, 1.6 MT (Nissan), 2014 г.в., прабег 1000 км, расход 4,6 л. Максімальная камплектацыя. Гарантыя 3 гады ці 100 тыс. км. Цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 3590794, Вэлком (8-029) 1920432.*

• Альфа-Рамэа, 1996 г.в., турбадызель 1,9, чорнага колеру. Т. (8-029) 3665305, (8-029) 8574910.

• Альфа-Рамэа 146, 1996 г.в., 1,6, хэтчбэк, чорны, выдатны стан. Т. (8-044) 4591382. (8-029) 2791983.*

• Аўдзі-80 В4, 1992 г.в., 2,0 газ-бензін. Т. МТС (8-029) 2786035.

• Аўдзі-6, 2002 г.в., квадра ў ідэальным стане, магчымы абмен на мінівэн з даплатай. Т. (8-029) 1764720.*

• Аўдзі-80 В4, 1994 г.в., 1,9 турбадызель, седан, зялёны, тэрмінова. Т. (8-029) 3999238.

• Аўдзі-80 В3, 1987 г.в., 1,8 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 2791795.

• ВАЗ 21013, 1984 г.в., добры тэхнічны стан, добры знешні выгляд, кузаў не мае карозіі, афарбоўка заводская, прабег 72 тыс. км, 21 млн. руб. Т. (8-029) 5702953.

• ВАЗ-2106, 1992 г.в., 15 000 000 руб., бэжавага колеру. Т. (8-029) 3665305. (8-029) 8723860.

• ВАЗ-21093 "Baltic" (фін. зборка), 1997 г.в., 1,5Б, цёмна-сіні, 90 тыс.км, ідэальны стан, цана дагаворная. Т. (8-029) 5551625.*

• Гольф-2, 1989 г.в., 1,8 бензін, чырвоны, 33 000 000 руб, торг да месца. Вілейка. Т. (8-029) 6535170.

• Мазда МПВ, мінівэн, 2002 г.в., 2,0Д. Т. (8-029) 9216093.*

• Мазда-626, 1996 г.в., 2,0 бензін, добры стан, тэрмінова. Т. Вэлком (8-044) 7345598.

• Мерседэс-190, 2,0 бензін, магчымы абмен на ВАЗ; ГАЗ-24,1984 г.в., 2,3 бензін. Т. (8-029) 5722940. (8-029) 6466652.

• Міцубісі-Лансер, 2004 г.в., 1,6Б, сярэбр., 130 т.км, на л/д, зімовая + летняя гума. Поўны э/пакет, кандыцыянер, 84 000 000 руб., торг. Т. (8-029) 6631595.*

• Нісан Прымера, 2002 г.в. (Р12), 2,2 дызель (японец), 250 тыс. км, 6МКПП, універсал, серабрысты, ланцуг ГРМ, камера, л/д, усё працуе, своечасовае і якаснае абслугоўванне, 2 кампл. гумы, цана 83 млн. руб., торг. Т. (8-029) 6513915.

• Опель-Астра, 2007 г.в., 1,4 бензін, хэтчбэк, сіні, 90 000 000 руб., Мядзел. Т. (8-029) 7579535.

• Опель-Вектра, 2001 г.в., 2,0 ТД, хэтчбэк, 58 500 000 руб., торг. Т. (8-029) 8217575.

• Опель-Кадэт, 1991 г.в., па запчастках. Т. (8-029) 7624949.*

• Пежо 3008, 2011 г.в., экспл., 1,6 бензін (156 к.с.), 6АКПП, 50 тыс. км, чорны, 2 кампл. гумы, л/д 17, купля і абслугоўванне ў аф. дылера (поўная гісторыя), сігн. з пэйджарам (аўтазапуск), стан новага аўто, цана 195 млн. руб., торг. Т. (8-029) 6513915.

• Рэно-Лагуна, 1998 г.в., 2,2 ТД, універсал, кандыцыянер, выдатны стан, Т. (8-029) 1208466, (8-029) 7004192.*

• Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,9 ТД, 268 т. км, МКП, зялёны металік, 52 000 000 руб, тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5652957, Велком (8-029) 6364904.

• Таёта-Карола, 2004 г.в., 2,0Д, выдатны стан, не з РФ. Т. Вэлком (8-029) 1199092.*

• Таёта-Ярыс, 2003 г.в., 1,4 дызель, 5-дзверны, серабрысты. Т. (8-029) 3672477.

• УАЗ бартавы ў Мядзеле, выдатны стан. Т. 8-029-3650053.

• УАЗ-буханка ў добрым стане. Т. (8-029) 7619245.*

• ФВ-Пасат Б3, 1992 г.в., 1,8Б, універсал, Маладзечна. Т. (8-044) 7660228.

• ФВ-Пола, 2001 г.в., 1,4Б, 5 дзвярэй, у добрым стане. Т. Вэлком (8-044) 5341245.*

• ФВ-Джэта, 1985 г.в., аб'ём 1,3 бензін. Т. (8-029) 3127179.

• ФВ-Пола, 2003 г.в., бензін, 5 дзвярэй, чорны; Пежо-306, 2001 г.в., 1,9 дызель, універсал, чорны. Т. (8-029) 3020248.

• Фіят-Дуката, 14 месцаў з правам камерцыйнай дзейнасці, можна аформіць як 8-месную. Г/у. Дзве печкі, вебаста на салон. Т. Вэлком (8-029) 3531343, МТС (8-029) 5681343.

• Форд-Гэлаксі, 2000 г.в., 1,9ТДІ. сярэбр., 124 500 000 руб., торг. Т. (8-029) 8662881.

• Форд С-МАХ, 2011 г. в., 1,6ТДІ, серабрысты, эл. пакет, кліма, круіз. Т. (8-044) 7787958.

• Форд-Сіера, 1988 г.в., газ-бензін. Т. (8-033) 6383847.*

• Форд-Транзіт, 1998 г.в., 2500ТД, 63кВт, падвышаны, укарочаны, добры стан. Т. (8-029) 3675088.*

• Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3Б, у добрым стане, 19 000 000 руб. Т. (8-029) 6194636.*

• Хундай-Саната, 2000 г.в., 2,0 газ-бензін, АКП, добры стан, 66 000 000 руб. Т. (8-044) 7675581.*

• Шаўрале-Крузе, 2010 г.в., 1,6і, МКПП, біты перад, 53 000 000 руб. Т. (8-029) 8881167.

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у да **НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗСКІХ** аўто. Гарантыя, г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДА РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭНАЎ. ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

• Запчасткі б/у да Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*

• **ЗАПЧАСТКІ** б/у **ДЛЯ УСІХ** марак аўто. г. Маладзечна, вул. Маладзёжная,10. ІП Еўдакіменка Д.І., УНП 191984027. Т. (8-029) 8787760, (8-029) 6392287*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• **ЗАПЧАСТКІ КУЗАЎНЫЯ (НОВЫЯ ЦІ Б/У), ОПТЫКА, АЎТАЭМАЛІ, МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ РАМОНТУ КУЗАВА, АЎТАШКЛО ПРАПАНУЕ СТА "КУЗАЎ". У НАЯЎНАСЦІ І ПАД ЗАКАЗ. НАЯЎНЫ І БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЛІК. ТАА "ІНЖЫНЕРТРАНССЭРВІС" УНП 691298030. Т. (8-033) 3860900, (8-029) 3870900.***

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Прычапное для л/аўто ФВ-Шаран, каўпакі арыгінальныя R-15. Т. МТС (8-029) 2641437.

• Прычэп "Зубраня" МАЗ 8114, сіні, дакументы, страхоўка. Т. (8-044) 4679866.

• Прычэп 1-ПТС-2,5. Т. (8-029) 6265423.

• Скутар HORS-054. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Рухавік на запчасткі, 1,9 дызель, Пасат В3. Т. (8-01772) 57460, дамашні ў Валожыне, (8-044) 7225161.*

• Шыны з дыскамі ГАЗ-52. Т. (8-029) 6265423.

### КУПЛЮ

• **АЎТО, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто 1980-2010 г.в. у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Матацыкл "Днепр" на запчасткі, можна без дакументаў. Т. (8-029) 5597995.

• Рухавік ФВ-Гольф, 1,6 дызель. Т. МТС (8-033) 6356434, (8-029) 2760643.

### ПАСЛУГІ

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5062372.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, ТРАНШЭІ ПАД ВАД.У, ГАЗ, ПАДМУРАК. ІП КРОЕР А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.***

• Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• **ПАКУПКА І ДАСТАЎКА ЛЮБЫХ А/М З ЕЎРОПЫ. НІЗКІЯ ЦЭНЫ. ЧСУП «ЛОТАС-АЎТО» УНП 690610798. Т. (8-029) 6575486, (8-025) 7407244.***

• Паслугі міні-пагрузчыка, мініэкскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Паслугі міні-экскаватара пад земляныя работы. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*





## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1,5-пакаёвая кватэра па вул. Ф.Скарыны, 2002 г., 55/28/10, 5/9 цаглянага. Шклопакеты, лоджыя, дамафон. Магчыма растэрміноўка. Т. Вэлком (8-029) 1440428.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. 1 Мая, 2 паверх. Т. (8-029)6235160.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Валынца, 45 кв.м, 2 паверх. Вокны, дзверы, санвузел раздзельны, добры рамонт. Т. (8-0176) 774031. Вэлком (8-029) 1396033.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-раён Зеніт. Т. Вэлком (8-044) 4749439.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, 2/3п, 62/40/9. Магчымы абмен на 2-пакаёвую кватэру ў Мінску з маёй даплатай. Т. (8-029) 6851798.

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 2 паверх. Т, (8-029) 5681791, (8-029) 3201270.*

• 4-пакаёвая кватэра ў а/г Лыцавічы Вілейскага р-на Мінскай вобл., у 2-х км ад Вішнёўскіх азёр і ў 15 км ад в. Нарач; 2-пакаёвая кватэра ў а/г Любань Вілейскага р-на Мінскай вобл., вокны ПВХ, еўрарамонт, 12 км ад Вілейкі Т. (8-029) 2634097, (8-029) 1428180.*

• Дача ў в. Заскавічы, садовае таварыства «Сосны», ёсць дом, гаспабудовы, альтанка, возера, рака. Т. (8-029) 1787505.*

• Дача ў в. Цынцавічы Вілейскага р-на, 0,15 га, будматэрыялы (цэгла, шыфер). Т. (8-029) 6546516.

• Дача ў Лазаўцы. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Дача ў садовым таварыстве "Магістраль", тэрмінова, дом драўляны, 48 кв. м. Ёсць фундамент пад лазню. Т. (8-029) 7514987, (8-029) 2649080.*

• Дача ў СТ "Прынта" Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6672724.

• Дача, 3 км ад Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 6170130.*

• Дом (кватэра) у в.Ілья. Ацяпленне паравое. Т. (8-029) 7430266.

• Дом 86 кв.м, 6 сотак, дзве печкі, в. Сыраваткі , 50 км ад Маладзечна, 97 000 000 руб. Дом прыгодны для жылля. Т. (8-044) 5494056.*

• Дом з участкам і садам у в. Астраўляны Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Побач Вішнеўскае возера. Т. (8-01771) 44201. МТС (8-029) 2766295.

• Дом на беразе возера Свір (25 сотак). 100% гатоўнасці, выдатны стан, выхад да возера. Т. (8-029) 1405077.*

• Дом стары ў Селівонаўцы, 0,25 га. Т. (8-029) 1033779, (8-029) 6800327.*

• Дом у аг. Любань. Т. (8-029) 2710857.

• Дом у в. Вязавец, 4 км ад горада, патрабуецца рамонт, 0,14 га, святло, калодеж, газ па вуліцы. Т. (8-029)8780243. (8-029) 7043581.*

• Дом у в. Ганчыцы Валожынскага р-на, 1962 год пабудовы, агул. пл. 62,5 кв.м, участак 25 сотак, гаспабудовы, калодеж, тэлефон. Т. (8-044) 7564284. (8-0176) 777968.

• Дом у в. Лебедзева, 32 кв.м, 0,15 га, усё прыватызаванае. Цана дагаворная, торг да месца. Т. (8-029) 3463652.*

• Дом у в. Скадорвы Валожынскага р-на, гаспадарчыя пабудовы, участак 30 сотак. Т. МТС (8-029) 5681972, Вэлком (8-029) 3149305.*

• Дом у в.Гаўці Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 9896234.

• Дом у в.Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у цэнтры в. Залессе Смаргонскага р-на, плошча 63 кв.м, плошча зямельнага ўчастка 17,87 соткі. Т. Вэлком (8 -044) 7174788, МТС (8-029) 8817120.*

• Дом ці абмен на 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т, (8-029) 1809654.

• Домік у в. Варакумшчына Смаргонскага р-на, танна. Т. (8-029) 1503597.*

• Кватэра ў Асіповічах. Т. (8-029) 2710857.

• Кватэра ў Маладзечне па вул. Ясінскага, 32, сталінка, 2 паверх, агул. плошча 75 кв.м, вялікая прыхожая, туалет, ванна – раздзельныя, кухня 8 кв.м. Т. (8-029) 6692065.*

• Кватэру 1,5 у Вілейцы, 2 паверх 5-павярховага дома, цэнтр, еўрарамонт. Т. (8-1771) 22991, МТС (8-029) 5710744.

• Участак 12 сотак з фундаментам пад будаўніцтва жылога дома ў в. Жодзішкі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 5241981.

• Хутар-дача ў Вілейскім р-не, 8 км ад Вілейкі, 100 км ад Мінска, дом 6х9, лес, лазня, гаспадарчыя пабудовы, торг, абмен. Т. (8-029) 7704944.

### КУПЛЮ

• Дачу нядорага. Т. (8-029) 9276686.*

• Дом стары ў вёсцы. Т. (8-029) 9276686.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру на 3-пакаёвую ці на дом з даплатай. Т. (8-029) 7950735.

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 3609369.*

• У арэнду памяшканне 24 кв.м. на міні-рынку "Першамайскі" ў Ашмянах, 1 800 000 руб у месяц. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

• У арэнду памяшканне 46 кв.м. пад магазін, салон сувязі, офіс і г.д. Высокая праходнасць (ад вакзала да цэнтра). Т. (8-029) 2694267, (8-044) 4599964.*

• **У АРЭНДУ ПАМЯШКАННЕ 103, 23, 3 КВ.М, ПОБАЧ З РЫНКАМ, У ЖЫЛОЙ ШМАТПАВЯРХОВАЙ ПАБУДОВЕ Ў МЯДЗЕЛЕ. АРЭНДНАЯ ПЛАТА АД 45 000 ЗА КВ.М. Т. (8-029) 7778488.***

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-025) 5144071.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК. ЧОРНЫ БМВ У ПАДАРУНАК**. ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **AM-VIDEO, ВІДЭАЗДЫМКА HD, МАНТАЖ**. ІП Малько А.Г., УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*









| **Тэлефонныя коды** | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

МАСТАЦТВА

# Фотамастак Міхаіл Крыжаноўскі адкрыў выставу ў Залессі

**СМАРГОНЬ. Выстава "Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці" – творчы фотапраект, прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння славутага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага.**

Выстава адлюстроўвае помнік гісторыка-культурнай спадчыны "Ансамбль былога палаца Агінскіх пачатку 19 стагоддзя" ў Залессі Смаргонскага раёна – дзівоснага куточка Беларусі. На фатаграфіях можна ўбачыць не толькі хараство беларускай прыроды, але і таленавітых, шчырых людзей гэтага краю, якія вызначаюцца адметнымі характарамі і адвечнымі думкамі пра будучыню сваёй непаўторнай і любай краіны. Людзей, далучаных да адраджэння ўнікальнай культурнай спадчыны, створанай родам Агінскіх. У экспазіцыі Міхаіла Крыжаноўскага прадстаўленыя работы ў наступных кірунках: фотарэпартаж, мастацкае фота, кам'ютарная графіка, фота, арт-аб'екты, інсталяцыі, жывапіс.

Любімыя тэмы яго фатаграфій: краявіды, старадаўняя і сучасная архітэктура, флора, жанчына і прырода, фатаграфаванне карцін і іншых аб'ектаў мастацтва. Ён майстра партрэтнага і мастацкага здымкаў.

Міхаіл Крыжаноўскі – удзельнік міжнародных і гарадскіх фотавыстаў і конкурсаў. Ён праводзіць персанальныя выставы і творчыя вечары ў бібліятэках і каледжах. Аўтарскія фатаработы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі і Швецыі.

Аўтар дадзенай фотавыставы ўдзельнічае ў дабрачынных праектах, арганізуе іх пры абласным і гарадскім таварыствах інвалідаў Мінска.

У аснову серыі фатаграфій пакладзеныя фотаматэрыялы, знятыя ў розныя гады. Натуральна, што ў прадстаўленым цыкле прысутнічаюць сюжэты, прысвечаныя актуальным пытанням захавання культурнага асяродку, паказаны стан палацавага ансамбля "Паўночныя Афіны", яго мінулае і сучаснасць. У цыкле ёсць работы, прысвечаныя мясцінам Агінскіх на тэрыторыі суседняй Літвы – Вільня, Рэтаў (Рэтавас), Трокі, Плунгяны (Плунге), інш.

Выставу мяркуюць паказаць у Беларусі, Літве, Польшчы, у мясцінах, дзе жыў і тварыў Міхал Клеафас Агінскі і ягородзічы.

На фатаграфіях можна ўбачыць досвітак і вечаровы захад, усмешку чалавека і шмат чаго іншага, што прымушае кожнага з нас углядацца ў фатаграфіі. Неабходна адчуваць пульс жыцця вакол сябе, тады і будзе давер да фота як да мастацкага твора.

Выставу ладзяць сёлета, калі міжнародная супольнасць адзначае 250-годдзе з дня нараджэння кампазітара і палітычнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага. Шэраг работ фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага прысвечаны знакамітаму кампазітару.

Наведаць выставу можна бясплатна.

**Васіль ЕРМАЛОВІЧ,**
**краязнаўца, выкладчык, перакладчык.**




**Міхаіл Крыжаноўскі падчас адкрыцця фотавыставы "Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці".**

## Удакладненне

Удакладняем артыкул "Як перамагчы дэпрэсію" ў №12 за 20 сакавіка "Рэгіянальнай газеты". Кансультацыя ў Маладзечанскім раённым тэрытарыяльным цэнтры сацабслугоўвання насельніцтва бясплатная і ананімная, па дапамогу можна звярнуцца па тэлефоне **(80176) 74-66-20** ці па адрасе: ***вуліца Таўлая, 4.***

**Рэдакцыя "РГ".**

● ГІСТОРЫЯ

# Як перажыла вайну дзяўчына з Валожына

## З успамінаў сястры Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №12.*

**ВАЛОЖЫН. Пра тое, якім было жыццё ў час акупацыі для жанчын, як ратавалі адзін аднаго і якімі страхамі і клопатамі жылі ў час вайны.**

Пра жыццё ў час Другой сусветнай вайны распавядае сястра жаўнера арміі Андэрса **Мікалая Махнача Валянціна Слабодчыкава**, у дзявоцтве Махнач. Успаміны ў рэдакцыю перадала **Яўгенія Чаплінская** з вёскі Літва Маладзечанскага раёна.

### Немцы былі, як дома

Праз некаторы час па дарозе на Сугвазды сталі ехаць на ўсход машына за машынай з нямецкімі салдатамі. Калоны машын змяняліся калонамі матацыклістаў.

І так цэлы дзень. Не спыняючыся. І толькі праз пару дзён затрымалася некалькі машын. Немцы паводзілі сябе, як дома. Параспраналіся да пояса, вёдрамі даставалі ваду з калодзежаў, мыліся, спявалі, смяяліся.

Адзін салдат прычапіўся да маці, каб прадала яму курыцу. І хоць мама не згадзілася, ён курыцу ўсё адно злавіў і даў за яе два польскія злоты. "Беж, беж кобета. То то самэ, як немецке маркі" – сказаў па-польску.

Наступныя пару дзён немцы ехалі на ўсход па Капусцінскай вуліцы. А потым мы іх з месяц не бачылі. Праўда, была нямецкая камендатура, з'явіліся першыя паліцаі, была ўстаноўленая каменданцкая гадзіна – пасля заходу сонца па вуліцах не хадзіць. І толькі недзе ў канцы ліпеня аднаго дня апоўдні мы пачулі з боку дарогі нейкі гоман. Я выбегла з дварышча і ўбачыла, што па дарозе да мястэчка спускаецца калона палонных савецкіх салдатаў. З абодвух бакоў ішлі нямецкія аўтаматчыкі з аўчаркамі.

Некаторыя палонныя былі босыя, а то і ў споднім.

Збегліся ўсе суседзі. Некалькім салдатам удалося кінуць запіскі. Яны пісалі, каб мы паспрабавалі выкупіць іх у немцаў, заявіўшы, што яны нібыта родзічы.

Адна суседка кінула палонным кавалак хлеба. За ім нагнулася некалькі чалавек, але падбег немец і пачаў біць іх дручком па плячах і галовах. Мы заплакалі.

У канцы калоны ехалі тры фурманкі. На першых знаходзіліся рэчы канваіраў, на апошняй ляжалі раненыя і знямоглыя палонныя.

Па нейкім часе стала вядома, што калону пагналі па Зарэцкай вуліцы, а потым праз Паніззе, і што там на выгане яны будуць начаваць.

### Ежу з ямы чэрпалі ў пілоткі

І вось жанчыны пачалі збіраць яду, каб занесці зняволеным – хто збанок малака ці якой стравы, хто хлеб, хто бульбы чыгунок зварыў. Сабраліся і пайшлі на Паніззе на той выган. Я таксама пайшла. Не памятаю, што несла, здаецца буханку хлеба, малако і яблыкі.

Калючым дротам быў ужо абнесены ладны кавалак выгану. Навокал хадзіла ахова з аўтаматамі, і людзей блізка не падпускалі, а валожынцаў сабралася шмат, большасць кабеты.

І толькі каля варот прымалі прынесенае. З вялікім жалем мы ўбачылі, што страву і малако выліваюць у выкапаную яму. Падыходзілі палонныя, і ім ахоўнікі выдавалі ці кавалачак хлеба, ці пару бульбінак. І з ямы чэрпалі палонікам гэтае месіва і налівалі – каму ў кацялок, а многім проста ў пілотку.

**Калі я, вярнуўшыся, расказала пра ўсё гэта маме, яна цэлую ноч плакала.**

Пасля таго яшчэ некалькі разоў гналі палонных. Ды пачалося жніво, і я на выган больш не хадзіла. Але суседка расказвала, што ў яму прынесенае немцы ўжо не злівалі, а паставілі для гэтага бакі.

### Вызваліла двух палонных з канцлагера за сыр і яйкі

Партызаны ноччу прыйшлі ў вёску Кражына. Там адпачывалі цэлы дзень, схаваўшыся ў нечым гумне. А калі сцямнела, выйшлі на суседнюю шашу і падклалі міны. На раніцу там падарваліся тры грузавікі з нямецкімі салдатамі, што ехалі ад чыгуначнай станцыі Забрэззе.

Немцы з дапамогай аўчарак знайшлі, дзе начавалі падрыўнікі, і спалілі ўсю вёску разам з яе жыхарамі, двароў дзесяць. З гэтай вёскі са мною вучылася адна дзяўчына. Яна засталася жывой толькі таму, што напярэдадні пайшла ў суседнюю вёску адведаць сваю бабулю.



Фота dariuss.livejournal.com

**Мемарыял "Шталаг 342" у Маладзечне. З канцлагера, які тут быў у час вайны, мама Валянціны Слабодчыкавай выкупіла двух палонных за сялянскія прадукты.**

У жніўні паліцыя ганяла туды людзей з Валожына жаць жыта і ячмень. І я трапіла ў гэты гурт. Мы жалі, але ні на хвіліну не маглі забыцца, якая тут адбылася трагедыя. Падымеш галаву – і бачыш абвугленыя рэшткі сцен і сіратлівыя коміны.

Маміна наймалодшая сястра **Варка**, што была замужам у Журэвічах, неяк прыехала да нас і між іншага расказала, што ў Маладзечне ёсць канцлагер для палонных. Іх там шмат, яны галодныя і хворыя, паміраюць дзясяткамі ў дзень.

Бедная наша мама, памятаючы пра свайго сына, некалькі дзён хадзіла, як агаломшаная. А потым папрасіла запрэгчы ёй каня і паехала да братоў і сястры ў Казельшчыну. З дому яна не мела ўзяць чаго добрага з яды. У Казельшчыне радня дала ёй і сала, і масла, і сыру, і яечак, і хлеба. І з усім гэтым яна паехала ў Маладзечна. Адна, ужо не маладая жанчына, ніколі там не быўшы. Бог ёй дапамог знайсці той канцлагер. І там яна ўгаварыла немцаў за тыя сыры і яечкі даць ёй двух палонных, бо яна адна і зусім няма каму працаваць на гаспадарцы. І тыя аддалі, маўляў – усе тыфозныя, і так скора памруць.

І вось прывезла дахаты двух палонных і сказала: "Я выратавала гэтых людзей ад вернай смерці. Можа, і майго сына гэтаксама нехта ўратуе".

Адзін з вызваленых быў беларус з Магілёва **Анатоль Садоўнікаў**. Меў нешта 24 гады. Другі быў расеец, інжынер са Свярдлоўска, меў 35 гадоў і зваўся **Міхась**, а прозвішча забылася.

### Захварэла на тыф

Прывёзшы, Толю і Міхася вымылі, далі нейкую сваю вопратку, а іхную прапалілі ў гарачай печцы, каб знішчыць паразітаў. Але я ўсё адно заразілася тыфам і праз пару дзён злягла з высокай тэмпературай. Завезлі ў бальніцу, падстрыглі, давалі піць нейкі адвар, рабілі ўколы. Тэмпература трымалася больш за сорак градусаў. Нічога не магла есці і так знясілела, што калі прыйшла да памяці, не магла стаяць на нагах.

**"Нельга апісаць гора маёй мамы – і сына не знайшла, і хваробу дачцэ прывезла.**

Але палонныя, на дзіва, не захварэлі. Аднаго з іх, Міхася, узяў да сябе сусед з Зарэцкай вуліцы.

Папраўляючыся, я ўвесь час адчувала голад і не магла наесціся. Раней з ядой перабірала, а цяпер ела ўсё, хоць і было толькі – кіслая капуста ды бульба. Нават мукі на хлеб не мелі, бо маму ў млын са збожжам не пускалі, таму што "тыфозная". Карова не даілася, куры не несліся. Было снежна і марозна.

Калі пасля новага 1942 года і Калядаў вярнулася ў школу, я папраўілася, шчокі паружавелі, валасы адраслі. Настаўніца беларускай мовы якраз ставіла "Пінскую шляхту" і мне далі ролю аднаго са шляхцічаў.

### Вызваліла ад паліцаяў гісторыяй пра каханне

За гэты час і Анатоль Садоўнікаў акрыяў. Выявілася, што ён сталяр, і хоць была зіма, паклаў у хаце падлогу. Дошкі ў нас былі, нават новыя. Радасці было шмат. Вялікі пакой стаў вельмі прыгожым.

Толькі ўспаміны пра Колю не давалі супакою. Мама на кухні залазіла вечарам на печ, спачатку доўга малілася, а потым пачынала плакаць і галасіць: "А мой жа сыночак, мой жа родненькі! Божа Моцны, уратуй яго ад бяды, ад няволі!"

Аднае раніцы ў канцы сакавіка мы пачулі стук у дзверы. Мама хутка апранулася і выйшла. На ганку стаялі паліцаі. "У вас жыве савецкі палонны. Мы прыйшлі яго забраць, пакуль не збег у лес".

Усе просьбы мамы не дапамаглі. Толю забралі.

Нам гэтага хлопца было вельмі шкада – ведалі, які лёс яго чакае, дый вясна надыходзіла, памог бы ў полі. Вось і надумалі, што я павінна яго вызваліць. "Валечка, ты ж ведаеш нямецкую мову, можа, гэта ім спадабаецца".

Увогуле я была вельмі нясмелая, але раптам наважылася паспытаць шчасця. Падышла да брамы вайсковага гарадка, паздароўкалася па-нямецку і пачала неяк тлумачыць, навошта прыйшла.

Салдатаў было некалькі. Усе маладыя. Выслухаўшы, рассмяяліся і запыталі: "Малады? Кавалер?" А потым адзін з іх сказаў: "Хадзем". Завёў мяне ў падвал на шырокі калідор, паабапал якога было шмат дзвярэй. Адчыняў дзверы і крычаў: "Садоўнікаў!" Камеры за дзвярыма былі перапоўненыя палоннымі. Толькі ў трэцяй камеры я пачула знаёмы голас: "Тут!"

"Schneller", – сказаў немец. Ён, мусіць, баяўся, каб нас "не застукаў" які афіцэр.

Вось так Толя зноў апынуўся на волі. Шкада толькі, што ненадоўга. У канцы красавіка яго забралі зноў, на гэты раз канчаткова. Развітваючыся, ён сказаў: "Я ўцяку. Няхай лепш мяне заб'юць, але назад у канцлагер не хачу. Застануся жывы – напішу". Але больш ад яго звестак мы не мелі.

Ён мог пасля першага арышту пайсці ў лес да партызанаў, як рабілі іншыя палонныя. Але не зрабіў гэтага, бо ведаў, што нас могуць пакараць – спаліць хату, а мяне забраць у Германію.

**Валянціна СЛАБОДЧЫКАВА (МАХНАЧ),**
**Малдова.**
**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**28 сакавіка.** 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Мархеля (1940 – 2013), паэта-перакладчыка, літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук.

***

**29 сакавіка.** 115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Корш-Сабліна (сапр. Саблін,1900 – 1974), беларускага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР. Адзін з заснавальнікаў беларускага кіно. Здымаў камедыі, фільмы-драмы, біяграфічныя фільмы. У 1945-1960 і 1969-1974 – мастацкі кіраўнік кінастудыі "Беларусьфільм". З 1957 года – старшыня Аргбюро СПК Беларусі. З 1965 года быў першым сакратаром СК Беларусі. Памёр 6 ліпеня 1974 года.

**110 гадоў** з дня нараджэння Майсея Грынблата (1905 – 1983), беларускага этнографа, фалькларыста, гісторыка. Адзін з аўтараў двухтомнай (т.1, 1961) і пяцітомнай (т.1, 1972) "Гісторыі Беларускай ССР".

***

**30 сакавіка.** 75 гадоў з дня нараджэння (1940) Аляксея Марачкіна, беларускага жывапісца, педагога. Пачынальнік нацыянальнага культурнага адраджэння ў найноўшай гісторыі Беларусі. Стварыў партрэты выдатных дзеячаў беларускай гісторыі і культуры: "Пачатак. Францыск Скарына" (1978), "М. Гусоўскі" (1980), "Вераніка і Максім" (1981), "Рагнеда" (1982), "Сымон Будны" (1989), "Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега" (1994), "Мікола Ермаловіч" (1994), іншыя.

***

**31 сакавіка.** 230 гадоў назад (1785) памёр граф Антоні Тызенгаўз, дзяржаўна-грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага, мецэнат, рэфарматар. Нарадзіўся ў Наваельні, цяпер Дзятлаўскі раён (1733 г.).

***

**1 красавіка.** 1862 год (ці 6 красавіка). Нарадзіўся Адам Багдановіч, этнограф, гісторык культуры, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйна-народніцкага руху, бацька Максіма Багдановіча.

***

**75 гадоў** назад (1940) у саратаўскай турме памёр Язэп Лёсік, грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, пісьменнік, педагог.

***

**2 красавіка.** 375 гадоў назад (1640) у Варшаве памёр Мацей Сарбеўскі, беларускі і польскі лацінамоўны паэт, літаратуразнавец, тэолаг.

***

**20 гадоў** назад (1995) памёр Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

АСОБЫ

# Юры Жыгамонт у саквaяжы носіць водар беларускіх мястэчак

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 21 сакавіка, у Маладзечна завітаў тэлевядучы, акцёр, журналіст Юры Жыгамонт.**

Ён прыехаў на творчую сустрэчу без звыклага саквaяжа, капелюша і акуляраў. Але пытанні пра саквaяж усё ж абмінуць не ўдалося.

– У саквaяж збіраю ўражанні ад месцаў, у якіх бываю, – распавядае Юры Жыгамонт. – Часам, вернешся з чарговага падарожжа, падзабудзеш водар мясціны. А тут адкрыеш саквaяж, а там пахі, скажам, Лебедзева, Краснага, Груздава.



Фота grodnonews.by

Такім Юрыя Жыгамонта ведаюць гледачы тэлебачання. У Маладзечна ж ён завітаў без звыклых саквaяжа, капелюша і паліто.

Падчас сустрэчы Юрыю гледачы задавалі шмат пытанняў, як пра перадачу "Падарожжы дылетанта", так і пра асабістае жыццё, цікавыя выпадкі, пра яго светапогляд. Артыкул пабудаваны з цытатаў Юрыя Жыгамонта, таму што да яго жыццёвай мудрасці цяжка дадаць яшчэ нешта.

## "Ён па-руску блага размаўляе"

За 14 год існавання перадачы "Падарожжы дылетанта" адно і тое ж месца здымачная група не наведвала па два разы. Выключэнне – тыя мясціны, пра якія на пачатку існавання перадачы здымалі 11-хвілінныя ролікі.

У 2001 годзе Юры Жыгамонт служыў акцёрам у тэатры беларускай драматургіі. Знаёмая, што працавала на тэлебачанні, распавяла пра тое, што шукаюць для новай перадачы пра вандроўкі беларускамоўнага вядучага. Яна прапанавала паспрабаваць Юрыя Жыгамонта.

У яе спыталіся: "А ваш знаёмы добра размаўляе па-беларуску?" На што яна адказала: "Ён, калі чэсна, па-руску блага размаўляе".

Цяпер перадача, прызнаецца Юры, адбірае ўвесь час. Ён сам піша сцэнарыі, шукае мясціны, у якія паедзе здымачная група. З тэатра давялося сысці.

## "Тэатральны інстытут разгледзеў з вышыні вежавага крана"

– У старэйшых класах я вучыўся блага, таму што ездзіў у школу праз лес. Адзін дзень у школу, другі – у лес.

Але калі на выпускным экзамене чытаў на памяць "Тараса на Парнасе", настаўніца, мякка кажучы, была здзіўленая, але выдатную адзнаку так і не паставіла.

Пасля школы была служба ў войску, потым – вучоба ў ПТВ па спецыяльнасці "машыніст вежавага крана".

– Сядзеў я на вежавым кране і вырашыў паступаць у тэатральны інстытут. Як мяне жыццё перавярнула з ног на галаву, да гэтага не магу зразумець. У тэатральным інстытуце высветлілася, што ў мяне няма слыху. На экзамене камісія напісала ў рэкамендацыях, што студэнту Жыгамонту супрацьпаказаная кар'ера ў оперным тэатры.

Любоў жа да чытання ў Юрыя на ўсё жыццё:

– Я чытаць люблю. І ад газет атрымоўваю асаблівую асалоду. Люблю раніцай дастаць з паштовай скрыні свежую газету, заварыць сабе каву і чытаць.

## "Ноччу да Барбары Радзівіл"

– Калі мне было гадоў 18, недзе прачытаў, што прывід Барбары Радзівіл з'яўляецца толькі закаханым. Вырашыў праверыць сябе на "закаханасць". Узяў білет да Нясвіжа і паехаў у нясвіжскі парк.

У аўтобусе на крэсле побач сядзела дзяўчына.

– Я ёй расказваю пра прывід Барбары, пра іншы містычныя рэчы, а яна мне раптам: "Паехалі да мяне! Я табе бліноў напяку". Я тады яшчэ падумаў: "Хм, рабіць няма чаго, да нейкай вясковай дзяўчыны ехаць". А потым, калі ноччу сядзеў у Нясвіжы на вакзале, адзінокі і замерзлы, думаў: "Ну я і прыдурак".

## "Веру ў дабро"

– Мяне часта пытаюцца, якой я веры, таму што ў перадачы аднолькава распавядаю і пра касцёлы, і пра цэрквы. Вось што я адказваю на гэта. Уявіце, што недзе ў лесе цячэ крынічка з чыстай вадой. Калі ля яе паставіць праваслаўны або каталіцкі крыж, вада ад гэтага не перастане быць чыстай. А калі ў крыніцу нальеш мазуты? З яе піць будзе нельга. Таму я жыву па такім прынцыпе: трэба жыць з чысцінёй і верай у сэрцы.

## "І ў містыку таксама веру"

– Так здаралася ў маім жыцці, што містычныя рэчы мяне праследуюць. Адзін выпадак, які немагчыма патлумачыць, памятаю яшчэ з дзяцінства.

У вёсцы Дзямідаў у Нараўлянскім раёне, дзе нарадзіўся Юры, адзін год не маглі даць рады вераб'ям:

– Аж чорна было на полі. Запрасілі бабку, якая нешта пашаптала над полем. І вось узнімаюцца гэтыя вераб'і над полем і быццам стукаюцца ў шкло, на поле не могуць сесці. Існуе такі выраз у нас у вёсцы: "Глупа ноч". Гэта калі ноччу ў адну хвіліну ўсё на свеце заміране. Нават вада ў крыніцы не цячэ. І калі паспець набраць вады ў гэту хвіліну, то такую ваду ў нас называлі "жывая" ці "мёртвая". Яна ратавала ад усіх хваробаў. Ад укусаў змей ніхто ў вёсцы не лячыўся ў дактароў. Вадой папырскаюць і ўсё – здаровы.

## Пытанні з залы: чаму вы такі стары і дайце рэцэпт самагонкі

Сярод шматлікіх пытанняў, якія задавалі Юрыю Жыгамонту гледачы, былі такія, якія пераканалі ўсіх прысутных у наяўнасці ў Юрыя непаўторнага пачуцця гумару.

**– Скажыце, а колькі вам гадоў? Па тэлевізары вы выглядаеце старым.**

– А які ў вас тэлевізар?

**– "Рэкорд" 1990 года.**

– Дык гэта ў вас тэлевізар стары, а не я стары.

**– Юры, вы ў адной перадачы сказалі, што беларусы гналі самагон з ананасаў. Але рэцэпт так і не выдалі. Можа, раскажаце сёння?**

– Рэцэпт пачынаецца са слоў: вазьміце два мяхі ананасаў…

**– О, можаце не працягваць, надта дарагі рэцэпт.**

А яшчэ падчас сустрэчы Юры Жыгамонт чытаў вершы. Відэа гэтых вершаў можна паглядзець на сайце rh.by



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

СКУЛЬПТУРА

# Зніклі шэсць літар з мемарыяльнага комплексу ў Смаргоні

**Людзі: клею пашкадавалі. Скульптар: гэта вандалы**

**СМАРГОНЬ. Яшчэ не бачна канца прац па будаўніцтве мемарыяльнага комплексу, прысвечанага падзеям Першай сусветнай, а ўжо трэба аднаўляць зробленае раней.**

Месяц таму з гранітнай пліты, што стаіць першай у комплексе, зніклі шэсць літар.

На гарадскім форуме каментатары пачалі сыпаць заявамі накшталт: "Якое блюзнерства? Людзі, вы пра што? Я побач жыву. Клею пашкадавалі – вось і адвальваюцца літаркі".

Скульптар са Смаргоні **Уладзімір Церабун**, аўтар праекта, шмат разоў выязджаў на месца будаўніцтва. І ён асабіста глядзеў, што здарылася з літарамі. На яго думку, версія "адваліліся" проста немагчымая.

– Глупства. Па-першае, літары трымаліся на трохсантыметровых шпільках. Па-другое, клей выкарыстоўвалі моцны, гранітны. Па-трэцяе, замацаваныя літары былі яшчэ і верхнім пакрыццём. Так што гэты варыянт выключаны.

## Як здарэнне перажывае скульптар

– Складана павышаць духоўнасць у краіне, дзе у народа нізкая культура, – працягвае Уладзімір Васільевіч. – Ужо няма нічога святога. Месяц таму зрабілі ў Смаргоні добрую выставу беларускіх скульптараў. А народ не ходзіць. Усе ходзяць па базарах. Мы прывучаем людзей да матэрыяльнага, і гэта не можа не адгукнуцца. Спрабуеш чалавеку данесці сэнс таго, што робіш, а ён табе: "А нашто мне гэта? Мне гэта не цікава". І нічога на гэта не адкажаш. А трэба глядзець наперад, а не ў кішэнь.

## Літары каштавалі некалькі мільёнаў рублёў

Як распавяла дырэктарка скульптурнага камбіната Беларускага саюза мастакоў **Таццяна Іванова**, літары былі зробленыя з нержавейкі і пакрытыя нітрыдам тытану.

Матэрыял лічыцца якасным. Сёння ім пакрываюць і купалы ў цэрквах.

Шэсць зніклых з помніка літар каштуюць каля 2-3 мільёнаў рублёў. Таццяна Іванова заўважае, што іх кошт вызначаецца не столькі цаной матэрыялаў, колькі выдаткаванай працы: тэхналогія апрацоўкі літар складаная і шматэтапная.

## Новыя літары ўжо заказалі

У тым, што хутка новыя літары зоймуць месцы старых, запэўніў намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама **Аляксей Апановіч**.

– Вандалізм ёсць вандалізм. Адзін узрадуецца прыгажосці мемарыяла, а іншы пойдзе штосьці адарве ды прадасць. Раней здараліся выпадкі вандалізму на тых жа могілках, але ж мемарыялаў у нас не тое, што скрозь. Вось адзін будуем, і ўжо факт вандалізму ёсць, – зазначае Аляксей Апановіч.

Відэакамеры, што маглі б спыніць вандалаў, патрабуюць сродкаў. Пакуль няма магчымасці іх усталяваць. Сам комплекс яшчэ патрабуе шмат працы, якая наўрад ці завершыцца раней, чым у 2018 годзе.

**Настасся РОЎДА.**

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Спявак Віталь Качаткоў раскажа, як стаць вядомым

**МАЛАДЗЕЧНА. Семінар пройдзе 4 красавіка ў тры гадзіны дня ў банкетнай зале "Глухар" па вуліцы Ларына, 2-а. Яго правядзе аўтар-выканаўца, музыкант, прадзюсар, кампазітар з Маладзечна Віталь Качаткоў.**

Падчас яго спявак падзеліцца досведам, як здабыць вядомасць, раскажа пра планы супрацоўніцтва з маладымі музыкантамі.

Таксама Віталь Качаткоў плануе перадаваць банкетную залу музыкантам для рэпетыцый. У гэты дзень у іх ёсць магчымасць парэпеціраваць у банкетнай зале.

Даведку можна атрымаць па наступных нумарах тэлефона:
**(8029) 6423464,**
**(8033) 6634736.**

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКАЛОГІЯ

# Сяргей Ганчар: “У межах Вілейкі ўсю Пляснянку ачысцім”

**ВІЛЕЙКА. Калі закончацца працы па ачыстцы і добраўпарадкаванні Пляснянкі, ці будуць прыцягваць да іх валанцёраў?**

“РГ” паведамляла, што ў снежні 2014 года пачаліся працы па ачыстцы Пляснянкі. На паказальны інвестыцыйны праект атрымалі 50 тысяч еўра.

Працы вядзе Вілейскае прадпрыемства меліярацыйных сістэм. Работы па ачыстцы ракі плануецца завяршыць у красавіку-маі.



Фота забяспечана Сяргеем ГАНЧАРОМ.

Валанцёры выйшлі навесці парадак на берагах Пляснянкі ў Вілейцы.

### Ачысцілі каля пяці кіламетраў

Працягласць Пляснянкі – амаль 11 кіламетраў, з іх па Вілейцы – каля сямі кіламетраў. На канец мінулага тыдня ачысцілі каля пяці кіламетраў. Работы ўключаюць ачыстку рэчышча ракі, умацаванне яе берагоў, прыбіранне непатрэбнай расліннасці

Яшчэ на вуліцы Савецкай на месце замянілі старую агароджу на новую, каваную.

– У межах Вілейкі Пляснянку ачысцім усю, – кажа каардынатар мясцовага экалагічнага плана дзеянняў Вілейскага раёна **Сяргей Ганчар**. – Спачатку планавалі, што праект ахопіць невялікую частку ракі ў межах вуліцы Савецкай і 17 Верасня, аднак мяркуем, што грошай хопіць на ўсю Пляснянку ў межах горада.

### Валанцёры папрацуюць яшчэ на добраўпарадкаванні

– Цяпер праводзіцца збольшага механічная праца, працуе тэхніка, – тлумачыць суразмоўца. – Ручная праца – толькі пад мастамі і там, дзе тэхніка не пройдзе. Дапамагаюць валанцёры і замацаваныя арганізацыі ў навядзенні парадку на берагах ракі.

Жыхароў дамоў ля Пляснянкі да работ не прыцягвалі. Ад іх патрабавалася толькі адно – паразуменне.

– Падчас працы было шмат непаразуменняў, – прызнае Сяргей Ганчар. – Па-першае, каб працавала тэхніка, даводзілася дзе-нідзе выкарчоўваць насаджэнні. Па-другое, многія пабудавалі розныя збудаванні ў водаахоўнай зоне. Прадстаўнікі архітэктурнай і землеўпарадкавальнай службаў выязджалі да людзей, каб вырашаць спрэчныя пытанні на месцы. Мяркую, людзі разумеюць, што ўсё робіцца дзеля таго, каб палепшыць выгляд горада і экалагічны стан Пляснянкі. Што неўзабаве вельмі прывабнымі будуць берагі і рэчышча ракі.

Валанцёраў да працы прыцягнуць і на этапе добраўпарадкавання, калі трэба будзе ўзнавіць паабапал Пляснянкі зялёныя насаджэнні.

### Што ў плюсе?

– Галоўнае, што экалагічная сітуацыя палепшыцца. Пасля ачысткі ў рэчцы будзе больш цячэнне вады, яна не будзе застойвацца і менш будзе глею. Берагавую тэрыторыю Пляснянкі добраўпарадкуюць, – працягвае Сяргей Ганчар. – Недарэмна ж ажыццяўлялі ініцыятыву пад лозунгам “Ачысцім малую раку Пляснянку – выратуем Балтыйскае мора”. Бо Пляснянка ўпадае ў Вілію, Вілія – у Нёман, а Нёман – у Балтыйскае мора. Адна з задач праекта – камфортнае пражыванне людзей на берагах Пляснянкі: частка ракі цячэ праз цэнтр горада і прыватны сектар.

### Абноўленая Пляснянка падштурхоўвае да добраўпарадкавання

– Праект падыходзіць да фінальнай стадыі, хутка ўбачым добраўпарадкаваную Пляснянку. Але падтрыманне яе ў належным стане – задача кожнага жыхара горада. У планах – і надалей працаваць з рэгіянальным экалагічным цэнтрам у іншых накірунках, – кажа Сяргей Ганчар.

Пабачыўшы змены Пляснянкі, вілйчане сталі выказваць новыя прапановы па добраўпарадкаванні. Звярнуліся, каб арганізавалі такі праект па вадаёме ў мікрараёне Воўкаўшчына, а таксама ля пятай школы.

Людзі казалі, што гатовыя сабрацца на суботнік. Толькі прасілі даць тэхніку, каб вывезці смецце.

Ачыстка і добраўпарадкаванне Пляснянкі ажыццяўляецца пры садзейнічанні рэгіянальнага экалагічнага цэнтра для краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Апытанне на гэтую тэму чытайце на 24-й старонцы.**

### За раскіданае смецце могуць даць штраф

Пра стаўленне да пераўтварэння Пляснянкі кажа **Міхал Пыско**, які жыве на беразе ракі.

– Я толькі “за”. Рэчка чысціцца, выраўніваецца, робіцца глыбейшая. Адзінае, каб гэты праект давялі да канца: добраўпарадкавалі, пасеялі траву. Па прыкладзе заходніх краін мог бы сам клапаціцца пра тэрыторыю паблізу свайго дома. Вельмі б хацелася, каб людзі не смецілі на берагах. Для гэтага трэба мяняць псіхалогію людзей.

Да ачысткі Пляснянкі дзе-нідзе ля ракі можна было пабачыць смецце. Мясцовыя жыхары скардзяцца, што іх суседзі выносяць смецце на бераг.

Якая адказнасць чакае тых, хто будзе працягваць выкідваць тут смецце? Пра гэта расказаў начальнік Вілейскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандр Альшэўскі**:

– Кожны грамадзянін па законе павінен збіраць і утылізіраваць адходы. Схема адпрацаваная: згодна графіку ездзяць смеццявозы Вілейскай ЖКГ, збіраюць смецце і адпраўляюць на гарадскі палігон утылізацыі камунальных адходаў.

Калі чалавек выкідвае смецце дзе папала, ён парушае заканадаўства аб абыходжанні з адходамі. Згодна артыкул 15.63 Кодэкса Рэспублікі Беларусі аб адміністрацыйных правапарушэннях за гэта грамадзянін можа быць папярэджаны або на яго накладзены штраф ад пяці да пяцідзесяці базавых велічынь.

Гэты артыкул тычыцца і фактаў, калі выяўляюцца каналізацыйныя скіды ў рэчку. Некаторыя адводзілі каналізацыю ад лазняў.

Раней, да ачысткі, берагі Пляснянкі былі зарослыя, шмат куды не пад'едзеш. І некаторыя думалі, выкіну ў кусты смецце, ніхто і не заўважыць.

У ракі з'явіўся свой твар, яна становіцца прыгожай і добраўпарадкаванай. І мяркую, рука ў віляйчан не ўзнімецца смеціць тут.

Са свайго боку будзем праводзіць рэйды, сачыць, каб не парушалася заканадаўства аб абыходжанні з адходамі.

● ПАМЯЦЬ

## Краязнаўцы назавуць сваю суполку імем Аляксея Лужынскага

**ВІЛЕЙКА. Такім чынам сябры вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ўшануюць памяць пра свайго сябра, які ў сакавіку сышоў з жыцця ў 26 год.**

Краязнаўцы сёлета плануюць не змяншаць тэмп і выконваць запланаванае.

Сёлета свет адзначае 250-годдзе Міхала Клеафаса Агінскага. Вілейскае таварыства плануе прысвяціць некалькі мерапрыемстваў гэтай даце. Удзельнікі рыхтуюць артыкулы, якія будуць прапанаваны “Рэгіянальнай газеце”, а таксама размешчаныя на сайце vialejka.info, у выданні “Волат” і ўлётках.

Плануюць семінары, сустрэчы з музыкантамі і пісьменнікамі, а таксама некалькі суботнікаў. Першы – у вёсцы Альковічы з удзелам ксяндза Анатоля і прыхаджан. Другі – на старых яўрэйскіх могілках у вёсцы Ілья, разам з ільянскай моладдзю. На гэтай талацэ таксама будуць гісторыкі з Мінска, якія дапамагалі рабіць вопіс Даўгінаўскіх яўрэйскіх могілак. Яны дапамогуць з перакладам надпісаў на надмагільных камянях. Таварыства аховы помнікаў запрашае ўсіх ахвотных далучыцца да ўдзелу. Пра даты суботнікаў паведаміць “РГ”.

Віляйчане плануюць паставіць тры інфармацыйныя стэнды. Такая практыка паказала плён. У 2013 годзе ўсталявалі тры стэнды. Першы – ва Уладыках каля помніка паўстанцам 1863 года, другі – у Сэрвачы, дзе раней стаяў касцёл. Многія тэлефанавалі і пыталіся, дзе знайшлі такі цікавы матэрыял аб гэтай мясцовасці, дзякавалі. Трэці стэнд усталявалі ў Гануце насупраць капліцы. Падзяку за яго атрымалі з Мінска.

– Вандроўнікі выпадкова трапілі ў Гануту падчас паездкі па гістарычных месцах Беларусі, – распавядае старшыня суполкі **Дзяніс Канецкі**. – Дзякуючы стэнду даведаліся больш падрабязна пра гісторыю Ганут.

Сёлета плануюць усталяваць стэнд у вёсцы Камена Даўгінаўскага сельсавета. У фондах прафесара Клосе з літоўскага архіва знайшлі малавядомыя фотаздымкі з гэтага месца. Ён здымаў мясцовасць у 1880 – 1933 гадах. Вілейскім краязнаўцам перадасць фотаздымак для стэнда краязнаўца **Аляксандр Зайцаў**.

Яшчэ два стэнды плануецца паставіць у Куранцы і Касуце.

Сябры таварыства працягнуць ініцыятыву Аляксея Лужынскага і будуць запрашаць вядомых спевакоў, аўтараў, пісьменнікаў і іншых творчых людзей. Сёлета на сустрэчу з віляйчанамі запросяць **Віктара Шалкевіча**, **Алеся Камоцкага**, **Зміцера Бартосіка** і іншых.

### Як падтрымаць сям'ю Аляксея Лужынскага

Малады вілейскі краязнаўца сышоў з жыцця 1 сакавіка пасля цяжкай хваробы. У яго засталіся жонка Эля і сын Верас.

Тыя, хто хоча падтрымаць сям'ю матэрыяльна, могуць пералічыць грошы (беларускія рублі) на картку Беларусбанка: 4255200045489622, картка дзейнічае да 10/19, філіял 601/632.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КОНКУРСЫ

## Праходзіць конкурс хвілінных ролікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У рамках фестывалю “Час жыць!” праходзіць конкурс хвілінных відэаролікаў “Паляванне за рэальнасцю”.**

Ахвотныя могуць дасылаць свае работы ў суполку ў інтэрнэце альбо загрузіць на ютуб і скінуць спасылку на іх у суполку.

– Пакуль ёсць тры работы, – расказвае кіраўнік моладзевага клуба зносінаў і творчасці “Дыялог+” Палаца культуры Маладзечна арганізатар фестывалю творчых ініцыятыў “Час жыць!” **Марына Валасковіч**. – Ідэя зрабіць асобны конкурс відэаролікаў належыць маладому рэжысёру з Маладзечна **Вользе Апанасевіч**. Летась яе фільм “Бабуля і мама” атрымаў на фестывалі “Час жыць!” першае месца.

Як адзначае арганізатар фестывалю “Час жыць!”, мэта конкурсу – прывабіць увагу людзей да навакольнага асяроддзя, паказаць свежы погляд на рэчы, якія людзі бачаць кожны дзень.

Падвядуць вынікі 15 мая ў амфітэатры. Галоўнымі крытэрыямі ацэнкі будуць навізна ідэі, свежасць погляду на жыццё.

**Галіна СІНІЦА.**




Мядзяльчанка Ірына Гарыдавец "у Дарозе" ўжо 11 гадоў. Падарожжы навучылі яе менш перажываць па дробязях, цаніць дапамогу і падтрымку людзей. Карпаты. 2011 год.

У ДАРОЗЕ

# Турызм дапамагае адпачыць ад горада, вучыць разумець людзей

**МАЛАДЗЕЧНА. МЯДЗЕЛ. Што значыць турызм у жыцці індывідуальнага прадпрымальніка Арцёма Цанцавіцкага і распрацоўшчыка базы даных Ірыны Гарыдавец.**

Арцём Цанцавіцкі "ў Дарозе" дзевяць гадоў, займаецца прамысловым альпінізмам, цікавіцца вандроўкамі.

## Вандроўкі дапамагаюць стабілізаваць унутраны стан

– Вандроўка – гэта добрая нагода, каб адпачыць ад шуму гарадоў, ад людзей, якія там увесь час мітусяцца, – расказвае маладзечанец. – Таксама яна дапамагае стабілізаваць свой унутраны стан, пабыць на ўлонні прыроды і з аднадумцамі-турыстамі.

Арцём заўважае, калі б у яго была магчымасць паказаць свае любімыя месцы, ён бы абавязкова правёў шпацыр уздоўж Віліі, паказаў руіны палаца Тышкевічаў каля вёскі Рудня ў Валожынскім раёне, касцёл у Вішневе.

## У Карэліі на турыстаў глядзяць як на іншапланецян

Яго любімы турыстычны раён – Карэлія. Быў там чатыры разы падчас водных паходаў. Іх ладзілі ўдзельнікі турыстычнага клуба "Пілігрым" **Аляксей Корсак** і **Анатоль Акулік**. Арцём узгадвае, што ў адной з груп было 23 чалавекі, сярод іх дзяўчынка трох гадоў.

Карэлія прывáблівае маладзечанца сваёй разнастайнасцю – забалочаная мясцовасць, скалістая і раўнінная тэрыторыі.

– Праплывеш 100 кіламетраў, і пейзаж кардынальна мяняецца, – успамінае Арцём. – Здзівіла, што нават на скалах бываюць забалочаныя ўчасткі, плывучыя астраўкі, на якіх растуць бярозы. Штурхнеш такі астравок – і бачыш, як ён паплыў далей.

Яго ўразіла, што тубыльцы глядзелі на іх, як на іншапланецян.

– Туды рэдка прыязджаюць турысты, – адзначае Арцём. – Цэны на паслугі, начлег там вельмі завышаныя.

Цікавым для яго было тое, што, каб высадзіць групу бліжэй да вады, машыніст спыняў цягнік у незапланаваным месцы.

З дарогамі ў Карэліі вялікія цяжкасці – летам мясцовыя людзі ездзяць на матацыклах, зімой – на снегаходах.

## Падарожжы дапамаглі менш перажываць па дробязях

Мядзяльчанка Ірына Гарыдавец "у Дарозе" ўжо 11 гадоў. Летась атрымала другі разрад па альпінізме, падчас падарожжа па гарах Цянь-Шаня.

Для яе паход – гэта магчымасць правесці вольны час, адпачыць ад штодзённых клопатаў, паразважаць над жыццём у аддаленасці ад горада, пабыць з людзьмі, апантанымі падарожжамі. Магчымасць даведвацца пра новыя мясціны, іх традыцыі, побыт.

– Паход – добры спосаб падтрымліваць фізічную форму, – дзеліцца Ірына. – Пры гэтым адчуваеш вялікую асалоду ад таго, што займаешся любімай справай і не прымушаеш сябе трэніравацца ў спартыўнай зале.

Ірына адзначае, што падарожжы дапамаглі ёй стаць больш сабранай, менш перажываць па дробязях, цаніць дапамогу і падтрымку. Як яна лічыць, цяпер стала лепш разумець людзей.

## На Каўказе горы суровыя

Мядзяльчанка вандравала па гарах Крыма, Карпатаў, Каўказа, Цянь-Шаня. Падарожнічала па Пскоўскай вобласці, па Беларусі. Была ў Кітаі.

– Там мяне здзівіла стаўленне да еўрапейцаў. У транспарце мне саступалі месца, рабілі кампліменты, прасілі зрабіць фотаздымак, – з захапленнем расказвае Ірына.

Любімыя месцы жанчыны – Белае возера на Мядзельшчыне каля вёскі Гатавічы, Нарач і яго ваколіцы.

Яе любімы турыстычны раён – Каўказ. Першы раз была там з удзельнікамі турыстычнага клуба "Альтаір" у Беларускім дзяржаўным інстытуце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Яна была там кіраўніком на працягу шасці гадоў.

– Там сапраўдныя горы, на маю думку, – распавядае Ірына. – Яны высокія, скалістыя, на іх не расце лес. Магу пра іх нават сказаць, што яны суровыя. Крым і Карпаты больш утульныя.

У наступных нумарах чытайце пра турыстычныя маршруты.



Воля ТРУБАЧ.
E-mail: ydaroze@mail.ru.

НАВІНЫ

## Ашмянцы занялі другое месца ў Літве

**АШМЯНЫ.** Юныя гульцы з футбольнай акадэміі Fair Play з Ашмянаў напрыканцы лютага-пачатку сакавіка прымалі ўдзел у турніры UTENISCUP-2015 у Літве. Каманды акадэміі змагаліся ў чатырох узроставых групах. Іх сапернікамі сталі каманды з Літвы.

Найлепш сярод ашмянцаў выступіла каманда 2007-2008 гадоў нараджэння. Яна заняла другое месца.

– Няхай у самых маленькіх прадстаўнікоў акадэміі не ўсё атрымлівалася, але шчырая любоў да футбола, сапраўдныя эмоцыі і жаданне перамагчы дазволілі нашым хлопцам узняцца так высока, – падзяліўся трэнер і заснавальнік футбольнай акадэміі **Аляксандр Кушнер**.

## Згуляюць за "Смаргонь"

**СМАРГОНЬ.** Працоўныя пагадненні з ФК "Смаргонь" заключылі трынаццаць футбалістаў. Гэта **Радзівон Жук, Валеры Макарэвіч, Аляксандр Тарлікоўскі, Андрэй Малажавы, Павел Шмігера, Сяргей Шуманаў, Сяргей Бандарэнка, Максім Яблонскі, Уладзімір Казко, Дзмітры Жданок, Яўген Калінін, Вячаслаў Замара, Сяргей Крот**.

– Астатнія гульцы, якія прымалі ўдзел у таварыскіх матчах, працягваюць знаходзіцца на праглядзе ў клубе, – расказаў прэс-аташэ клуба **Уладзімір Амбрасевіч**. – Таксама на прагляд прыбылі **Юры Глебаў, Аляксандр Талканіца, Павел Сцяцко, Віталь Ганіч**. Трэнерскі штаб не выключае з'яўлення ў камандзе і некалькіх дасведчаных гульцоў па заканчэнні заявачнага перыяду ў вышэйшай лізе.

Для **Уладзіслава Гайдукевіча** і **Аляксандра Новіка** прагляд не стаў паспяховым, яны пакінулі размяшчэнне клуба.

## "Смаргонь" згуляла ўнічыю з "Лідай"

**СМАРГОНЬ.** На штучным полі ДЮСШ 20 сакавіка "Смаргонь" правяла чарговы таварыскі матч. Сустрэча з ФК "Ліда" завяршылася без галоў: 0:0.

Раней, 14 сакавіка, "Смаргонь" гуляла з дэбютантам першай лігі – ФК "Крумкачы" з Мінска. Смаргонцы выйгралі 1:0. Адзіны гол забіў на 13-й хвіліне. **Уладзімір Казко** падаў вуглавы, а **Дзмітры Жданок** выйграў адзінаборства ў абароне мінчан і галавой адправіў мяч у сетку.

## Сталі найлепшымі ў вобласці па міні-футболе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каманда Маладзечанскага раёна 14-15 сакавіка ў Слуцку гуляла ў фінале чэмпіянату Мінскай вобласці па міні-футболе.

Сапернікамі былі каманды Дзяржынскага, Любанскага раёнаў, "Слуцкцукар" і СП "Фрэбор" з Барысава.

Маладзечанцы атрымалі тры перамогі і адну гульню прайгралі. Гэтага хапіла для першага месца. Лепшым бамбардзірам турніру стаў гулец маладзечанскай каманды **Прохар Новікаў**, пераможца ў абласной федэрацыі футбола.

## Вілейскія выратавальнікі – трэція ў шахматах

**ВІЛЕЙКА.** У Мінску 13 сакавіка прайшоў чэмпіянат па шахматах абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях. Паміж прадстаўнікоў рэгіёна вызначалася каманда Вілейскага райаддзела. Яна заняла трэцяе месца, паведамляе абласное ўпраўленне.

## "Вілія" ідзе пятай

**СМАРГОНЬ.** У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе ў вышэйшай лізе смаргонская "Вілія" 15 сакавіка абыграла "Легенду" 9:6.

– Ад самага пачатку захапілі ініцыятыву, забілі хуткі гол. Неўзабаве – і другі, – распавёў гулец "Віліі" **Віталь Будай**. – Потым трымалі сапернікаў на адлегласці не менш за тры мячы ўсю гульню.

У другім тайме смаргонцы двойчы гулялі ў меншасці – у іх выдалялі гульцоў. Аднак пераможны рахунак утрымалі.

"Вілія" ўзнялася на адну прыступку ў турнірнай табліцы і займае пятае месца.

## "Меліяратар" – чацверты, "Ашмяны" – пятыя

**АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ.** А ў першай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе змаганні завяршыліся.

"Меліяратар" з Астраўца 21 сакавіка гуляў з лідарам – камандай "Масты". Футбалісты з Астраўца прайгралі 8:14.

"Ашмяны" атрымалі тры ачкі: іх сапернікам, "Гродналіфту", залічылі тэхнічнае паражэнне за няяўку 0:5.

Абедзве каманды з рэгіёна набралі па 13 ачкоў. Але "Меліяратар" апынуўся ў выніковай табліцы вышэй – на чацвертым месцы, "Ашмяны" – на пятым. Перамаглі ў першай лізе "Масты".

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота Настассі РОЎДЫ

**“РГ” прапанавала паглядзець на сонечнае зацьменне праз магнітны дыск з разламанай старой дыскеты, складзены ўдвая.**

● АДЗІН МОМАНТ

# Маладзечанцы глядзяць на сонечнае зацьменне

**МАЛАДЗЕЧНА. Сонечнае зацьменне можна было ўбачыць 20 сакавіка. Яно пачалося ў 11:57.**

“Рэгіянальная газета” прапанавала людзям паглядзець на сонечнае зацьменне праз дыскету, складзеную ўдвая. Многія былі ўражаны падобным відовішчам – пачыналі ўсміхацца, уражана ўскліквалі: “Нічога сабе!”

Адна з жанчын расказала, што бачыць падобную з'яву другі раз.

– Першы раз глядзела на зацьменне праз рэнтгенаўскую плёнку ў 1985 годзе. Была вельмі ўражаная. Сёння думала, што ніяк не ўбачу – расстроілася. А тут, на шчасце, вы.

У гэты ж час падышла яшчэ адна жанчына, папрасіла паглядзець. Калі пачула, што зацьменне можна ўбачыць праз рэнтгенаўскую плёнку, яшчэ больш узрадавалася: “Хутка прыйду дадому, яшчэ раз пагляджу!”

**Настасся РОЎДА, Галіна СІНІЦА.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | | | | | | |
| | 5 | | | | 7 | | 8 | |
| 6 | | 7 | 4 | | 2 | 3 | | |
| | | | | 9 | 1 | | 4 | |
| | | 8 | 5 | | 3 | 1 | | |
| | 9 | | 7 | 4 | | | | |
| | | 1 | 6 | | 4 | 8 | | 2 |
| | 6 | | 3 | | | | 7 | |
| | | | | | | | | 5 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі “**12 месяцаў. Новая казка**” (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
28 сакавіка – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды “**Звярыны атрад**” (3D, Італія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – в 14:00 (цана білета: 25000 рублёў)
28 сакавіка – у 15:30 (30 000 рублёў)

Фэнтэзі, прыгоды “**Папялушка**” (ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 16:00 (цана білета: 20 000 рублёў)
29 сакавіка – у 14:00 (25 000 рублёў)

Анімацыя, фэнтэзі “**Таямніца Сухаравай вежы.Чарадзей раўнавагі**” (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 18:30
28 сакавіка – у 17:30
29 сакавіка – у 12:00
30 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі “**Прывід**” (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27, 30 сакавіка, 1 красавіка – у 21:00 (цана білета: 45 000 рублёў)
28 сакавіка – у 22:00 (50 000 рублёў)
29 сакавіка – у 19:00
31 сакавіка – у 18:30
2 красавіка– у 17:30 (цана білета: 45 000 рублёў)

Фантастыка, баявік “**Дывергент, глава 2: Інсургент**” (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
28 сакавіка – у 19:30
29 сакавіка – у 16:30; 21:30
31 сакавіка – у 21:00
1 красавіка – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Ваенная драма “**Бітва за Севастопаль**” (Расія, Украіна, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2 красавіка – у 19:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя “**Жанчыны супраць мужчын**” (Расія, 2015, з 16 год)
2 красавіка – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Дакументальны фільм “**Спакушэнне д'ябла**”, (Беларусь, 2015, з 16 год)
2 красавіка – у 22:00
Цана білета: 3 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, прыгоды “**Астэрыкс: Зямля багоў**” (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 17:00
28 сакавіка – у 15:00
29 сакавіка – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды “**Бабай**” (Украіна, 2014, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 15:00
28 сакавіка – у 17:00
29 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Гісторыка-прыгодніцкі “**Дзяржаўная граніца. Афганскі капкан. Фільм дзясяты**” (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
28, 29 сакавіка – у 18:30
31 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер “**Мерзлая зямля**” (ЗША, 2011, з 16 год)
27, 30, 31 сакавіка – у 21:30
28, 29 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды “**Дзяржаўная граніца. Афганская пастка**” (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27, 29 сакавіка – у 17:30
28 сакавіка, 1 красавіка – у 19:30
2 красавіка – у 20:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя “**Вось дык сяброўка**” (Італія, з 16 год)
27, 29 сакавіка – у 19:30
28 сакавіка, 1 красавіка – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя “**Пчолка Мая**” (Аўстралія, без узроставых абмежаванняў)
28, 29 сакавіка – у 14:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Баявік “**Пампеі**” (Канада, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 красавіка – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі “**Таямніца Сухаравай вежы. Чарадзей раўнавагі**” (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 14:30
28 сакавіка – у 15:00
29 сакавіка – у 12:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды “**Папялушка**” (2D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
27 сакавіка – у 16:30
Цана білета – 20 000 рублёў
28 сакавіка – у 17:00
29 сакавіка – у 18:30
1 красавіка – у 18:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік “**Дывергент, глава 2: Інсургент**” (3D, ЗША, з 16 год)
27 сакавіка – у 18:30
28 сакавіка – у 21:00
29 сакавіка – у 16:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі “**Прывід**” (2D, Расія)
27 сакавіка – у 21:00
28 сакавіка – у 19:00
29 сакавіка – у 20:30
1 красавіка – у 20:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Фэнтэзі “**12 месяцаў. Новая казка**” (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
28 сакавіка – у 13:00
29 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Ваенная драма “**Бітва за Севастопаль**” (2D, Расія, Украіна, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 красавіка – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Камедыя “**Жанчыны супраць мужчын**” (2D, Расія, з 16 год)
2 красавіка – у 20:30
Цана білета – 45 000 рублёў



Фота kinopoisk.ru

**Кадр з фільма “Жанчыны супраць мужчын”.**

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“№13”** (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
31 сакавіка, аўторак, – у 19:00

E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**“Казкі з куфэрка”** (спектакль-імправізацыя), *А.Жугжда*
29 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**
УНП 600136804

● ГАРАСКОП

**27 САКАВІКА – 2 КРАСАВІКА**



**Авен.** Калі ў вас дрэнны настрой – ешце цытрусавыя, гуляйце па сонейку – вітаміны С і Д неабходныя вам. Пацешце кавалачкам шакаладу. Абавязкова высыпайцеся і не перагружайце сябе сумнымі справамі.



**Цялец.** Калі вы хочаце чаго-небудзь дабіцца, у вас павінна хапаць мужнасці на няўдачы.



**Блізняты.** Любыя дзеянні – гэта лекі ад хваляванняў, суму і трывогі. Перастаньце думаць і зрабіце хоць што-небудзь.



**Рак.** Давайце дзецям больш свабоды. Няхай робяць памылкі. Не завальвайце іх парадамі. Паважайце ў дзіцяці асобу. Гэта як гульня ў косці: ты іх кідаеш і глядзіш, што выпадзе.



**Леў.** Старасць – у чалавека ў галаве. Вы павінны расці і вучыцца далей. І гэта адзінае супрацьяддзе ад старасці.



**Дзева.** У вас стан, блізкі да дэпрэсіі. Не ўпадайце ў адчай. Жыццё такое пераменлівае, што калі сёння вам дрэнна, то заўтра можа адбыцца такое, што ад радасці аж дух захопіць.



**Шалі.** Каб вярнуцца ў рабочы строй, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з'яўляюцца новыя сілы.



**Скарпіён.** Трацьце грошы па сваіх магчымасцях і не залазьце ў даўгі. Жывіце свабодна. Даўгі не дазволяць вам гэтага зрабіць.



**Стралец.** Думкі пра іншых адцягваюць вашу ўвагу ад пастаянных думак пра сябе. Каб ваша жыццё склалася найлепшым чынам, ніколі не здавайцеся, не апускайце рукі, працуйце над сваім жыццём, сваім целам, развіццём мовы.

**Казярог.** Не замыкайцеся ў сабе. Прымайце дапамогу і самі дапамагайце. Будзьце адкрытыя і шчырыя – гэта здарова, гэта лекі. І гэта дае магчымасць людзям верыць вам і дзяліцца з вамі сваімі эмоцыямі, а вы можаце дзяліцца з імі ў адказ.



**Вадалей.** Не будзьце прывязаныя да меркавання грамадства. Будзьце адкрытыя для любой магчымасці ці ідэі. Вы здзівіцеся, як шмат магчымасцяў дае жыццё, калі іх не адкідаць.



**Рыбы.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – галоўныя. І кожны чалавек для сябе – самы галоўны.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


● **НАДВОР'Е**

**28 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +5 / +13 | | +7 / +9 | | +3 / +5 | | +2 / +7 | |
| | 741 | ↖ 8 | 742 | ↖ 7 | 740 | ↖ 6 | 724 | ↑ 7 |
| **Вільня** | +6 / +15 | | +7 / +10 | | +4 / +8 | | +3 / +7 | |
| | 748 | ↖ 6 | 750 | ↖ 4 | 747 | ↑ 5 | 733 | → 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.54
Захад 19.41
Даўжыня дня 12.47

Усход 12.33
Захад 3.38
Квадра 2




● **ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ**

**Вілейка**

- Мінімальная тэмпература –17,3 °С у 2013 годзе
- Максімальная тэмпература +16,4 °С у 2007 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 9,5 мм у 1984 годзе

Назіранні за 59 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **Як карыстацца аўдыёгідам, калі паедзеш на Нарачанскі край? Чаму вандроўка з ім незабыўная?**



● **ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ, МЯДЗЕЛЕ, СМАРГОНІ, МАЛАДЗЕЧНЕ**

## Як вы ацэньваеце экалагічную сітуацыю ў рэгіёне?

**Павел Хаванскі, інжынер, Вілейка:**



– Экалагічная сітуацыя на Вілейшчыне станоўчая, але не ідэальная. Няшмат заводаў, мала машын, кругом лясы і рэкі. Але, калі прайсціся па беразе Віліі ці вадасховішча, можна пабачыць смецце. Адсюль і парада: хочаш змяніць экалогію ў добры бок – пачні з малога, прыбяры за сабой!

**Вольга Яжова, навуковы супрацоўнік, к. п. Нарач:**



– На мой погляд і думку многіх эколагаў, у Нарачанскім рэгіёне сітуацыя стабільная і спрыяльная. Паколькі ёсць шмат прыродных комплексаў, якія знаходзяцца ў натуральным стане. Нават у краінах Еўропы такіх натуральных прыродных комплексаў мала, яны скарачаюцца.

**Вольга Пескавая, жыхарка Вілейкі:**



– Адказаць складана. Лічу, што нейкая сярэдняя. Не падабаецца, што дрэвы шмат абразаюць. Каб палепшыць сітуацыю, трэба, каб кожны стараўся зрабіць свой уклад. А не толькі нейкія арганізацыі і ўстановы на гэта працавалі.

**Уладзімір Амбрасевіч, жыхар Смаргоні:**



– Экалагічная сітуацыя на Смаргоншчыне пакідае жадаць лепшага. Бо Смаргонь – прамысловы горад.

**Марыя Шарамет, пенсіянерка, Маладзечна:**



– На рацэ Уша вельмі брудна. Трэба добраўпарадкаваць гэтыя месцы. Таксама чысціня ў некаторых дварах пакідае жадаць лепшага. Аднак праблему не трэба скідваць на службы, якія прыбіраюць у горадзе. Трэба пачынаць з сябе.

**Алеся Валуй, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**



– Мне здаецца, што ў Маладзечне і раёне нядрэнная экалогія. У горадзе чыстыя вуліцы, асабліва падабаецца гуляць з дзіцем у гарадскім парку. Там вельмі спакойна, чыста, у глыбіні парку нават не чуваць машын.

**Людміла Якаўлева, пенсіянерка, Маладзечна:**



– Асноўная праблема – гэта загазаванасць паветра. Машын у гарадах стала так многа, што ў спякотнае надвор'е ад іх цяжка дыхаць. Радуе, што ў дварах чыста, смецце не валяецца на кожным кроку.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Галіна СІНІЦА.**


**Артыкул на экалагічную тэму вы можаце знайсці на 21-й старонцы.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 13 (1039) 27.03.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 399 . Падпісана ў друк у 9.00 26.03.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.